PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (2200) Год XLIII | Беласток 12 ліпеня 1998 г. | Цана 1,20 зл.

## *Сустрэча з прэм'ер-міністрам*

Яўген Міранович

27 чэрвеня на Беласточчыне пабываў прэм'ер-міністр Рэчы Паспалітай Ежы Бузэк. У Беластоку кіраўнік урада сустрэўся з мітрапалітамі каталіцкім — архібіскупам Станіславам Шымэцкім і праваслаўным — архіепіскапам Савам. Мітрапаліту Саве Ежы Бузэк заявіў аб прызначэнні 350 тыс. злотых на рамонт Супрасльскага манастыра. У будынку Ваяводскай управы прэм'ер-міністр сустрэўся з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей Беласточчыны. У гісторыі пасляваеннай Польшчы Ежы Бузэк — першы шэф польскага ўрада, які знайшоў час на такую сустрэчу і амаль паўтарагадзінную гутарку з грамадзянамі беларускай нацыянальнасці. Гэты факт яшчэ раз паказвае на вялікае разыходжанне палітыкі цэнтральных і мясцовых улад у дачыненні да беларусаў. Ваявода і прэзідэнт горада Беластока паводзяць сябе так быццам бы беларусаў тут ніколі не было.

Вітаючы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей Ежы Бузэк сказаў, што ў дэмакратычным грамадстве заўсёды выступае супярэчнасць інтарэсаў паміж усялякімі грамадскімі групамі, аднак ідзе пра тое, каб не набывалі яны прыкмет канфлікту на рэлігійнай ці нацыянальнай глебе. Змены, якія наступілі пасля 1989 года — паводле прэм'ер-міністра — даюць шанц усім грамадзянам краіны, у тым ліку і нацыянальным меншасцям.

Старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа звярнуў увагу, што планаваны адміністрацыйны падзел краіны і прапанаваныя паўнамоцтвы ваяводскіх улад выклікаюць пытанне, якой у новай сітуацыі будзе палітыка ў дачыненні да беларускай меншасці. Пытанне гэтае важнае, асабліва ў кантэксце актуальнай сітуацыі ў гэтай галіне ў Беластоцкім ваяводстве. Сакрат Яновіч сказаў, што талерантнасць у адносінах да людзей іншай нацыянальнасці ці веравызнання, пра якую так часта ўспамінаюць прадстаўнікі ўлады, была пажаданай, але ва ўмовах мінулых стагоддзяў. Сёння, сказаў Яновіч, патрэбнае партнёрства. Але дзеля гэтага раней патрэбна адукацыя польскай большасці, якая, напрыклад, пра беларусаў не ведае нічога або амаль нічога. Старшыня БГКТ Ян Сычэўскі расказаў таксама пра складанасці ў кантактах з мясцовымі ўладамі, пра задоўжанасць будынка пры вуліцы Варшаўскай 11 і адсутнасць зацікаўлення беластоцкага ваяводы Беларускім музеем у Гайнаўцы. Старшыня Аб'яднання славянскай нацыянальнай меншасці Яўген Чыквін наракаў на агрэсіўную рыторыку правых партый і арганізацый.

Зразумела, што сустрэча не паўплывае на вырашэнне праблем беларускай

[працяг ☞ 2]



*На „Бязмежжы '98" прэзентавалася новенькая, пахучая друкарскай фарбай кніжка „Demonokameron" Адама Глёбуса.* Фота Міры ЛУКШЫ

## Бегчы трэба да канца

Польска-беларускі літаратурны семінар „Бязмежжа", які праходзіў у Беларускім музеі ў Гайнаўцы ў днях 26-28 чэрвеня, праводзіўся ўжо трэці раз.

Вынікам першага семінара была падборка сучаснай беларускай літаратуры ў беластоцкім часопісе „Карткі" і выхад у бібліятэчцы таго ж часопіса версэтаў Алеся Разанава *Zdobywcy* ў перакладзе на польскую мову Алега Латышонка. Пасля другога семінара ў „Картках" з'явілася паэзія, умоўна кажучы, пакалення „Тутэйшых", а пазней выйшла кніжка *Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej* пад рэдакцыяй Яна Максімюка. На „Бязмежжы '98" прэзентавалася новенькая, пахучая друкарскай фарбай кніжка *Demonokameron* Адама Глёбуса. Дык неяк натуральна на семінары ўзнікла пытанне: што далей, які беларускі аўтар і якія творы будуць перакладацца на польскую мову?

Усё больш выразна вырысоўваецца мэта самога „Бязмежжа", якое спачатку было ўсяго ідэяй, нейкай мала канкрэтнай прагай давесці да збліжэння і ўзаемапазнання польскую і беларускую літаратуры. Цяпер вось, здаецца, паказаная дарожка, па якой варта ісці ў будучыні: перакладаць на польскую мову тое найлепшае, што з'яўляецца ў беларускай літаратуры. Тым больш, што мала-памалу, Янам Максімюком уцягваюцца (амаль за вушы) у перакладчыцкую справу новыя асобы. Да перакладання *Дамавікамерона* падключыліся чатырнаццаць асоб. Гэта ўжо не абы-што!

Калі шукаць нейкі парытэт, дык на беларускую мову з польскай у Менску ёсць каму перакладаць. Аб перакладчыцкіх праектах ды аб сваім удзеле ў іх расказвалі ў Гайнаўцы аспіранты Беларускага дзяржаўнага універсітэта, звязаныя з часопісам „Фрагменты" Валерка Булгакаў і Юрась Бушлякоў. Першы пераклаў, між іншым *Парнаграфію* Вітальда Гамбровіча, а другі таленавіта абеларушвае Збігнева Герберта, якога вобразы абложанага горада і непахіснай маральнай пазіцыі, якую займае пан Когіта, здаюцца вельмі дарэчнымі ў сённяшняй сітуацыі ў Беларусі.

Прысутная на семінары рэдактар прэстыжнага варшаўскага часопіса „Literatura na Świecie" Іаанна Рахань сказала, што ў яе рэдакцыі ёсць спрыяльная атмасфера дзеля выдання беларускага нумара. Адзін варунак: трэба цікавыя, добра перакладзеныя тэксты. Калі Чэслаў Сэнюх прачытаў фрагмент „На чорных лядах" Васіля Быкава, запрапанавала яна змясціць гэта ў адным з бліжэйшых нумароў, не чакаючы выхаду асобнага беларускага, што пры тэмпах „Literatury na Świecie" можа здарыцца найхутчэй праз пару гадоў. А вось кніжка Васіля Быкава *Сцяна* папольску павінна з'явіцца восенню (перакладаюць яе ўспомнены Чэслаў Сэнюх і незаменны ў такіх выпадках Ян Максімюк). Быў бы гэта дасканалы ае анонс у польскіх літаратурных колах і пераканаўчы аргумент, што існуе не толькі партызанска-трактарная беларуская літаратура.

Сённяшнюю сітуацыю беларускага пісьменніка Адам Глёбус параўнаў да сітуацыі самотнага бегуна на стадыёне, канкурэнты якога сышлі з дыстанцыі (наймацнейшыя памерлі на бегавой дарожцы), а суддзі перасталі судзіць. Чытачы не чытаюць, крытыкі не крытыкуюць... пісьменнікі зыходзяць з дыстанцыі. Той, хто застаецца бегчы, на нішто не разлічвае, а бяжыць, бо бегчы трэба да канца. „І раптам я атрымаў водгук, — сказаў Адам Глёбус, — выйшла мая кніжка на польскай мове".

Найбліжэй да польскага выдання дабег Уладзімір Арлоў, — пагадзіліся ўдзельнікі семінара „Бязмежжа '98".

**Мікола Ваўранюк**

## *Беларускія масоны*

У чэрвені 1921 года палітыкі, якія ўзначальвалі эміграцыйныя структуры БНР, заснавалі ў Коўне незвычайную арганізацыю — Беларускае брацтва, якое дзейнічала паводле прынцыпаў масонскай ложы. Члены Брацтва кляліся на вернасць БНР, віталіся заклікам: „Вялікая справа!" і адказам: „Справа Бацькаўшчыны!". Сходы брацтва, якія адбываліся штомесяц, не пратакалаваліся, арганізацыя не мела ні праграмы, ні статута. Мела аднак свае мэты. Найважнейшай было адраджэнне беларускага народа і незалежнасці краіны.

[нарыс ☞ 4]

## *Конкурс беларускай паэзіі і прозы*

Сёлета вучні падставовых школ даслалі 5, ліцэісты — 13, а дарослыя — 18 прац. Ацаніла іх кампетэнтнае журы, якое састаўлялі вядомыя літаратары: паэтэса Надзея Артымовіч, паэт Ян Леанчук і пісьменнік Сакрат Яновіч. Конкурсная камісія, якая засядала 10 чэрвеня г.г., вырашыла не прысвойваць месцаў і звярнула ўвагу на тэксты дванаццаці аўтараў.

[вынікі ☞ 5]

## *Усе — вялікамучанікі...*

Пасля вайны Генюшаў арыштавалі ў Празе. Сп. Ніна гаворыць, што Юрку было тады 11-12 гадоў. Мне ён каліс прызнаўся, што да дванаццаці гадоў размаўляў на вуліцы на чэшскай мове.

Прыйшлі дахаты і загадалі пакавацца і збірацца ў дарогу. У суматосе ім удалося падкінуць камусьці Юрку. Яны яго схавалі ці не ў суседзяў, якіх папрасілі, каб яны звязаліся з польскім пасольствам у Празе.

[успамін ☞ 8]

## *Не дачакаўся прызнання*

Прафесар Ян Тарасевіч не шукаў сабе славы, музыку ўспрымаў як жыццёвую асалоду і патрэбу душы. Да рэвалюцыі, у Пецярбургу, рыхтавалася яму фантастычная кар'ера. Ужо тады выдавецтва Юргенсона друкавала яго творы для фартэпіяна. Выкладаў ён у прыватнай школе Быстрова. Расказваў, што бачыў як бальшавікі здабылі Зімовы палац. Бо якраз і ён жыў у Зімовым палацы, дзе быў музыкантам Марыі Паўлаўны, сястры цара.

[інтэрв'ю ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Сустрэча з прэм'ер-міністрам

[1 ☞ працяг]

грамадскасці Беласточчыны, але і не гэтае было яе мэтай. Арганізатары пабыўкі прэм'ер-міністра, праўдападобна, хацелі перш за ўсё адмяніць атмасферу на Беласточчыне. Здаецца, што большасць удзельнікаў сустрэчы вынесла з яе вельмі станоўчыя ўражанні. Ежы Бузэк выступаў як кіраўнік дзяржаўнай адміністрацыі, якая імкнецца ўвесці краіну ў свет еўрапейскай цывілізацыі. Гэта нацыянальным меншасцям павінна прынамсі гарантаваць справядлівыя прынцыпы палітычных гульняў вакол іх.

Пасля развітання з прэм'ер-міністрам гутарка працягвалася з міністрам яго канцылярыі Войцехам Аркушэўскім. Сказаў ён, між іншым, што беларускія праблемы проста непаўторныя, так як асаблівай нацыяй з'яўляюцца самі беларусы. У суседняй Украіне, напрыклад, 80 працэнтаў насельніцтва прагаласавала за незалежнасць, у Беларусі — наадварот. У Еўропе няма такой нацыі, якой свядомасць затрымалася на ўзроўні тутэйшасці і ў сапраўднасці ніхто не ведае нават як можна дапамагчы беларусам. Можаце мець тут, на Беласточчыне, гаварыў міністр, свае школы, пасльоў, самаўрады, нават ваяводаў, але ў сапраўднасці нічога не маецe, таму што ваша грамадства гэтым не зацікаўленае. Палякаў не цікавяць ніякія змены ў гэтай галіне, таму сітуацыю можа адмяніць толькі інтэлігенцыя.

Можна было б адказаць міністру, што інтэлігенцыя нешта і прабавала рабіць, але гэта ніколі не мяняла агульнай сітуацыі. Яна такая самая як заўсёды — жменька тых, якія хочуць быць нармальным народам і абыякавае грамадства, якое сароміцца свае іншасці, хаваючыся за шырмай тутэйшасці, сацыялізму, славянства ці праваслаўя. Але самае найгоршае, што маланкава знікае і такая наша грамадскасць. Трыста тысяч беларусаў на Беласточчыне гэта толькі міф, які можа і варта пры кожнай нагодзе прадаваць палякам, але толькі ім, хаця яны таксама ў гэта не вераць.

**Яўген Міранович**

## Рыхтуецца Міжнародная канферэнцыя

17-19 ліпеня 1998 г. у Беластоку адбудзецца III Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя „Культура і адукацыя беларускага замежжа". Пасяджэнні пройдуць у актавай зале Беластоцкага універсітэта па вул. Лінярская 4 (2 паверх).

17.07.1998 г. — $18^{00}$ — дыскусія на тэму „Беларусы Беласточчыны ў дыяспары".

18.07.1998 г. — $9^{30}$-$17^{30}$ — пленарнае пасяджэнне.

19.07.1998 г. — паездка па Беласточчыне.

Запрашаем беларусаў Беласточчыны да ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве, якое сумесна ладзяць Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына", Беларускі саюз у Польшчы, Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" і Беларускае гістарычнае таварыства.

За інфармацыяй просім звяртацца ў рэдакцыю „Нівы".

**Аргкамітэт**

## Праваслаўныя парламентарыі Еўропы

У Варшаве адбылася двухдзённая V сесія Еўрапейскай асамблеі праваслаўных парламентарыяў, якую арганізаваў польскі бок па ініцыятыве пасла Сейма Сяргея Плевы. Мэта такіх сустрэч — абмен вопытам у галіне дасканалення заканадаўства, якое спрыяла б праваслаўю ў паасобных краінах. Тэмай сесіі была дзейнасць рэлігійных сектаў у святле заканаўства Польшчы і іншых еўрапейскіх краін.

Праваслаўныя парламентарыі з семнаццаці краін Еўропы наведалі Беласточчыну. Сустрэліся яны з мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы Савам, віцэ-ваяводам Юзэфам Клімам, удзельнічалі ў багаслужбе ў Свята-Мікалаеўскім саборы і наведалі Супрасль. У канферэнцыі прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.

**(вл)**

## Брэсцкі мір

(...) Зразумела, што расійская эліта не пойдзе на гэта [*зварэжэнне Лукашэнкі — рэд.*] з-за любові да мастацтва і дэмакратыі. Але частка беларускіх апазіцыянераў гатова заплаціць практычна любую патрэбную цану, як гэта ўжо мела месца ў час начных перагавораў напярэдадні рэферэндуму. Адхіленне Лукашэнкі, на іх думку, адкрые магчымасці для паступовай падрыхтоўкі ўласнай суверэннай дзяржавы, нават калі гэта будзе зроблена рукамі Масквы.

Але гэтыя разлікі загадзя прыгавораны на правал па многіх прычынах. Дзеля таго, каб з табой мелі справу, трэба нешта сабою прадстаўляць. У адваротным выпадку цябе будуць лічыць не партнёрам, а звычайным халяўшчыкам. Гэтую простую праўду нядрэнна засвоіць тым, якія ўжо ўраслі ў панараму палітычных папрашаек. Беларускім палітыкам неабходна даказваць сваю дзеяздольнасць ва ўласнай краіне, а не ў чужой.

Да таго ж у Расіі на даным этапе цікавасць да падзей у суседняй дзяржаве даволі-такі абмежаваная. Візіцёраў з Мінска прымаюць і выслухоўваюць, але больш нічога. Чужым слёзам Масква, як вядома, не верыць, а ўласных сур'ёзных прычын для ўмяшання ў беларускія справы ў яе пакуль няма. І на самай справе лепш каб такія не паявіліся.

Беларускія палітыкі, праўдападобна, не разумеюць, якім шчасцем для краіны з'яўляецца адсутнасць увагі да яе з боку Расіі. Цяперашняя слабасць беларускай дзяржавы робіць яе лёгкай здабычу. Але патэнцыяльная ахвяра замест таго каб прытаіцца, шчыра імкнецца прыцягнуць да сябе ўвагу драпежніка.

Пара ўрэшце зразумець, што ў Расіі сярод уплывовых палітычных сіл няма такіх, якім былі б дарагія ідэі адраджэння беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасці. (...) У Масквы ёсць свае ўласныя інтарэсы, якія розныя буйныя групоўкі разумеюць па-свойму. (...)

Напрыклад, не сакрэт, што беларускія апазіцыянеры ў цэлым з сімпатыяй ставяцца да Барыса Ельцына, паколькі расійскі прэзідэнт час ад часу кладзе ўпоперак лаўкі Аляксандру Лукашэнку. Але інтрыга, якая цяпер рыхтуецца ў Крамлі, можа выклікаць у Мінску моцнае расчараванне ў вельмі многіх асоб. Там, вядома, ужо цяпер рыхтуюцца да выбараў 2000 года і, на даны момант, асноўным кандыдатам ад партыі ўлады з'яўляецца менавіта Ельцын. (...) Гэта, канешне, было б унутранай справай Расійскай Федэрацыі, калі б не адна акалічнасць. Зусім магчыма, што Ельцын будзе выбірацца на пост кіраўніка новай дзяржавы. А менавіта Саюза Расіі і Беларусі.

Гэты варыянт у Крамлі зараз сур'ёзна распрацоўваецца. Усе разумеюць, што пры такім парадку можна застрэліць некалькіх зайцаў. Па-першае, у сто першы раз набраць ачкі на любімай тэме інтэграцыі. Па-другое, зняць усе пытанні па прычыне таго, другі ці трэці тэрмін на пасадзе прэзідэнта знаходзіцца Ельцын (першы!). На канец, атрымаць у сваё поўнае распараджэнне новую тэрыторыю, якая сярод ужо падпарадкаваных выглядае далёка не самай бескарыснай.

Само сабой разумеецца — у Маскве дасканала ведаюць пра амбіцыі Лукашэнкі, паколькі ён сам неаднакратна заяўляў пра іх дарэчы і недарэчы. Але падобных шукальнікаў прастола ў Расіі ўжо не раз размазвалі па крамлёўскай сцяне. Лукашэнка, канешне, можа рызыкнуць, аднак яму прыйдзецца мець дачыненне не са жменькай дылетантаў, да якіх ён прывык, але з сапраўднымі прафесіяналамі. Шансаў на поспех у яго, скажам адкрыта, будзе мала. Але нават калі Лукашэнка зверне сабе шыю на расійскіх прасторах, будзе гэта слабой кампенсацыяй за страту Беларуссю дзяржаўнага суверэнітэту.

Дарэчы, пры вышэйапісаным ходзе падзей у апошняга могуць з'явіцца нечаканыя абаронцы. Далёка не ўсіх у Маскве прываблівае перспектыва прадаўжэння паўнамоцтваў Ельцына. Таму абавязкова знойдуцца тыя, хто спакваля будзе тарпедаваць працэс дзяржаўнага аб'яднання. Кіраваўца гэтыя ігракі будуць зусім не сімпатыямі да беларускай незалежнасці. Як сказаў у прыватнай размове адзін з іх, „мы хочам далучыць Беларусь у 2001, а не ў 1999 годзе".

(...)

Заўтра можа ўзнікнуць сітуацыя, пры якой у беларускіх палітыкаў узнікне спакуса купіць уласнае шчасце цаной яшчэ аднаго „Брэсцкага міру". Знойдуцца і адпаведныя паясненні, чаму трэба паступіць так, а не інакш. Але ніякім слоўным шалупіннем нельга абвяргнуць элементарныя пастулаты.

Свабоду з чужых рук атрымаць немагчыма. У справе захавання ўласнай дзяржаўнасці можна разлічваць выключна на саміх сябе. А бясплатны расійскі сыр бывае толькі ў мышалоўцы.

**Аляксандр Старыкевіч**

*„Навіны", 29 мая 1998 г.*

# Негасцінная Кран-Мантана

Пад канец чэрвеня прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўдзельнічаў у эканамічным форуме ў швейцарскім горадзе Кран-Мантана. Паездка адбылася дзякуючы настойлівым намаганням беларускага МЗС, але і так праграма пабыўкі была скарочана на два дні, у выніку чаго Лукашэнка не наведаў жэнеўскага прадстаўніцтва ААН, не выступіў на канферэнцыі па раззбраенню і не сустрэўся з шэфам Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуанам Самаранчам (Аляксандр Лукашэнка з'яўляецца старшынёю Беларускага алімпійскага камітэта). Таксама атмасфера на самым форуме не была зусім прыхільнай для беларускага лідэра. Па словах кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча, Аляксандр Лукашэнка вытрымаў удар, а прамоўцам (старшынствуючаму на форуме спадару Маларду і дэпутату Фраю, якія „хацелі звесці прэзідэнта з прэзідэнцкага ўзроўню") не ўдалося вывесці з раўнавагі кіраўніка дзяржавы. На думку Міхаіла Мясніковіча, Лукашэнка „аргументавана растлумачыў сутнасць шэрагу найбольш актуальных праблем паміж Беларуссю і Захадам".

Аднак тлумачачы сваю пазіцыю Лукашэнка — як напісала газета „Известия" — „оскорбил Россию" перад замежнай аўдыторыяй, сказаўшы, што „адной краіне было дастаткова расстраляць з танкаў уласны парламент, каб быць прынятай у Раду Еўропы". Гэта выклікала рэакцыю расійскага Міністэрства замежных спраў. Ягоны прэс-сакратар Уладзімір Рахманін паведаміў, што ўрад Расіі чакае паясненняў ад прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ды спадзяецца, што ён проста абгаварыўся.

Пасля вяртання ў Мінск Аляксандр Лукашэнка выказаў незадаволенасць тым, як быў падрыхтаваны яго візіт у Кран-Мантана. Мясніковіч, не чакаючы каго Аляксандр Лукашэнка вызначыць у якасці канкрэтных вінаўнікаў, паспяшаўся не толькі сказаць прыемныя прэзідэнту словы, але і пакаяцца: „Адміністрацыя Прэзідэнта вінавата перад Аляксандрам Рыгоравічам у тым, што недастаткова глыбока прааналізавала магчымае развіццё падзей". Затое на адрас Захаду накіраваў негатыўныя словы: „Думаю, што форум у Кран-Мантана яшчэ не дарос да таго ўзроўню, каб запрашаць такіх магутных лідэраў як Аляксандр Лукашэнка".

Былы віцэ-міністр замежных спраў Беларусі Аляксандр Саннікаў мяркуе, што швейцарская паездка можа стаць апошнім візітам Аляксандра Лукашэнкі на Захад. Афіцыйны Мінск, спрабуючы рабіць добрую міну пры кепскай гульні, называе візіт у Кран-Мантана чарговым знешнепалітычным поспехам. Аднак апазіцыйныя палітыкі прадказваюць, што негасціннаму прэзідэнту, які даўёў да ад'езду паслоў заходніх краін з Беларусі, дарога на Захад будзе канчаткова закрыта. Відаць, ён і сам не пажадае ездзіць туды, дзе яго не ўспрымаюць ды абмяжуе свае паездкі да расійскіх губерняў, краін СНД і Азіі.

**Віталь Луба**

# Ці ёсць беларускі музей у Гайнаўцы?




*Стаяць вялікія музейныя будынкі, унутры якіх знаходзяцца кіно, рэстаран, пасольскае бюро і офіс падаткавага дарадчыка.*

Такое пытанне можа ставіць кожны, хто прайшоўся вакол будынкаў, якія будуецца ўжо больш дзесяці гадоў пад назвай „Беларускі музей”. Паводле слоў Кастуся Майсені, галоўнага арганізатара інвестыцыйных работ, пабудова фінансавалася за сродкі польскай і беларускай дзяржаў ды беларускай эміграцыі і ахвяраванні жыхароў Беласточчыны. Грошы, як відаць, не былі патрачаны. Стаяць вялікія будынкі, унутры якіх знаходзяцца кіно, рэстаран, пасольскае бюро паслоў Саюза левых дэмакратаў — Владзімежа Цімашэвіча, Сяргея Плевы і Яна Сычэўскага, офіс падаткавага дарадчыка. Усярэдзіне ёсць таксама зала з экспанатамі беларускай мінуўшчыны, але аб гэтым няма ніякай весткі звонку будынка.

Зразумела, што Камітэт пабудовы музея вымушаны весці камерцыйную дзейнасць, але навошта тады была патрэбна мабілізацыя беларускай эміграцыі і падаткаплацельшчыкаў з Рэспублікі Беларусь, калі б шыльды мелі толькі інфармаваць, што ў будынку знаходзяцца рэстараны, пасольскія кабінеты ды іншыя ўстановы. Каб прынамсі над гэтым усім віднела нейкая вялікая шыльда з інфармацыяй, што ў гэтым комплексе будынкаў знаходзіцца ці будзе знаходзіцца беларускі музей. Праўда, архітэктура будынкаў як бы спецыяльна створаная для іх выкарыстання на памяшканні для банкаў, адміністрацыйных установаў ці нават нейкага цэнтра сучаснай культуры. Найменш, аднак, асацыюецца яна з матэрыяльнай ці духоўнай спадчынай беларусаў Беласточчыны. У палове васьмідзесятых гадоў планавалася тут пабудова не столькі беларускага музея, колькі музея рэвалюцыйнага руху. Але калі ўжо ўзнік шанц стварэння беларускай установы, а ў яе пабудову ангажаваліся тысячы беларусаў усяго свету, хай тады будзе надзея для ўсіх „веруючых” прынамсі ў выглядзе шыльды, што іх долары паслужылі добрай справе.

**Яўген Міранові**

*Фота Аляксея Мароза*



*Усярэдзіне ёсць таксама зала з экспанатамі беларускай даўніны, але аб гэтым няма ніякай весткі звонку будынка.*

# Белавежскія газеты

Ніяк не можа стабілізавацца сітуацыя на белавежскім прэсавым рынку. Паўпрыватны, выдаваны Анджэем Антчакам і Надлясніцтвам Белавежа, двухтыднёвік „Białowieżanin” памёр натуральнай смерцю восенню мінулага года. Астаўся сам месячнік „Głos Białowieży” — часопіс мясцовай грамадскасці, як дэкляравалі яго рэдактары Лех Навацкі і Альжбета Яблонская. Трэба сказаць, што „Głos” карыстаўся папулярнасцю чытачоў. Даваў канкрэтную інфармацыю, нядрэнна рэдагаваўся. Таму і крыху здзіўляе даволі далёкае месца, якое ён заняў у праведзеным некалькі месяцаў таму рэйтынгу мясцовай прэсы ў Беластоцкім ваяводстве. Ну, і не баяліся рэдактары „Głosu” гаварыць проста ў вочы гміннаму самаўраду і праўленню гміны, што думаюць пра іх, як іх ацэньваюць самі белавежцы. Народныя абраннікі цярпелі датуль, пакуль не ўзнікне нагода расправіцца з ненавіснай газетай. Якраз Леху Навацкаму, дырэктару Белавежскага асяродка культуры (афіцыйнаму выдаўцу газеты), канчаўся з концом красавіка г.г. тэрмін працы. Гміна не згадзілася прадоўжыць дамову. Таксама і самаўрад адказаўся фінансаваць газету ў ранейшым выглядзе.

Ну, і „Głos Białowieży” красавіцкім нумарам развітаўся са сваімі чытачамі. Адначасова самаўрад загадаў намесніку дырэктара БАКу працягваць выдаванне часопіса. Нона Кур'яновіч, пастаўлена „пад сценку”, усё ж давяла да таго, што чарговы, спалучаны за два месяцы нумар „Głosu Białowieży” выйшаў напрыканцы чэрвеня г.г. Але гэта ўжо не той часопіс, хаця вонкава падобны на той, які выдаваўся дагэтуль. Ну, і худзейшы ён напалову, хаця нумар падвойны. Апрача графічнага афармлення і той самой цаны (1 зл.), у нічым ён не нагадвае свайго папярэдніка.

Праз нейкі час пасля развітання старога „Głosu Białowieży” з чытачамі ні адтуль ні адсюль Анджэй Антчак выпусціў нумар „Białowieżanina” з датай 25 мая г.г. Відаць, рэдактар пашкадаваў матэрыялаў, якія яму асталіся пасля спынення выдавання часопіса. На рэгулярнае выдаванне „Białowieżanina”, бадай, няма чаго разлічваць. Тым больш, што ходзяць чуткі быццам А. Антчак стараецца ўладкавацца на працу ў Беластоку.

Не здаюцца ўсё-такі Лех Навацкі і Альжбета Яблонская. Цвёрда думаюць выдаваць незалежную газету „Życie Białowieży”. Падрыхтавалі ўжо яе першы нумар, які мае паявіцца ў ліпені г.г. Выдаўцы газеты хочуць звязаць яе з Фондам падтрымкі мясцовай ініцыятыве. Зараз завяршаюць працу над статутам.

Цікава, што будзе далей? Будзе мець Белавежа дзве газеты ці ніводнай? Шкада было б, каб здзейсніўся гэты другі варыянт.

**Пётр Байко**

# Развітальнае пасяджэнне

**Згодна з прынятымі парламентам і прэзідэнтам пастановамі, самаўрадавыя выбары ў гмінныя рады адбудуцца ў кастрычніку, а паўнамоцтвы цяперашніх рад закончыліся 19 чэрвеня. Амаль чатыры месяцы працай гарадскіх і вясковых самаўрадаў кіраваць будуць управы, якія застануцца без кантролю радных.**

— Калі не змяніцца існуючы закон, цяжка будзе рэалізаваць інвестыцыі, — якія часткова фінансуюцца з розных фондаў. Без пастановы радных такіх грошай управа горада не зможа ўзяць, — сказала бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк у час апошняй XL Сесіі Рады горада Гайнаўкі, якая праходзіла 18 чэрвеня. — Але гэтая справа тычыцца таксама і іншых радаў, таму можа і будзе прыняты адпаведны закон.

У час апошняга пасяджэння Гарадской рады гаварылася пра ліквідацыю малых кацельняў у цэнтры горада і замяшчэнне іх адной вялікай з прадпрыемства „Фурнэль”, пра раскопкі ў горадзе, якія раней вяліся энергетыкамі, а зараз сувязістамі Польскай тэлекамунікацыі і суполкі „Рэтэль”, якія падключаюць новыя тэлефоны. Успаміналася таксама пра супрацоўніцтва са Свіслаччу. Радны Мікола Бушко выступіў з прапановай дадатковага фінансавання рамонту левіцы ў Гайнаўскім доме культуры і сцэны ў амфітэатры, але падтрымкі не атрымаў. Размова ішла таксама пра змены ў горадзе пасля стварэння Гайнаўскага павета.

Аднак найдаўжэй дыскусія засяродзілася на грошах, якія папалі ў гарадскую касу за продаж кватэр у блёках каля новай бальніцы (463 тысячы злотых). Прапановы выдаткавання згаданых грошай тычыліся рамонту старой бальніцы, выканання дарогі да згаданых блёкаў і куплі тамографа, якога пакуль што ў Гайнаўцы няма і бальніца не прадбачвае яго куплі. Радны Яўген Сачко прапанаваў, каб з выкананнем дарогі пачакаць, а даць больш грошай на тамограф, але ў галасаванні прапанова прапала.

Канчаткова радныя вырашылі, што 213 тысяч злотых адведзеных будзе на тамограф, 180 тысяч на рамонт пнеўманалагічнай бальніцы і 70 тысяч на выкананне дарогі.

Паколькі было гэта ўжо апошняе і развітальнае пасяджэнне Гарадской рады, гутарка ішла яшчэ пра працу Самаўрадавага сейміка, старшыні Рады Якуба Астапчука і Управы горада. Кожны радны атрымаў грамату з падзякай за працу і ўсе зрабілі супольны здымак. Пасяджэнне новай Рады — у кастрычніку.

**Аляксей Мароз**

# Нельга расчытаць

У нядзелю 7 чэрвеня г.г. давялося мне пабываць у Міхалове на камуніі майго ўнука. Заехаў я ў Міхалова рана і рашыў даведацца ў колькі гадзін ад'язджае аўтобус у Беласток цераз Заблудаў. Калі падышоў да стэнда на прыпынку, пабачыў лістоўку, на якой усе гадзіны былі так замазаны, што нельга было іх расчытаць.

На прыпынку стаяла маладая дзяўчына, вучаніца адной з міхалоўскіх школ. Калі я стаў яе распытвацца пра аўтобус, яна толькі паціснула плячыма і сказала: „Самі ж бачыце, што немагчыма расчытаць”. Старэйшы мужчына растлумачыў мне, што ўлады ПКС ужо тройчы змянялі на дошцы расклад аўтобусаў, але на другі дзень усё было так замазана, што нельга было расчытаць.

Тут мне прыйшла ў галаву думка: Міхалова не хоча, каб сюды хто-небудзь прыязджаў! А можа гэтай справай заняліся б міхалоўскія ўлады і папрасілі б уласніка кіёска, які знаходзіцца побач прыпынка, каб той дазволіў прыклеіць у акне паперку з раскладам руху аўтобусаў. Варта аб гэтым падумаць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Рамантуюцца дарогі

У Кляшчэлеўскай гміне найбольш гравеек. А яны — як вядома — патрабуюць частых рамонтаў. Прыдалося б мець больш асфальтаваных дарог. І таму намаганні тамашніх улад ідуць у тым напрамку.

Сёлета закончаць пракладку асфальту на паўтаракіламетровай дарозе з Войнаўкі ў Палічну ды на 850-метровым адрэзку вуліцы ў самой Палічнай.

Зараз кладуць асфальтавае палатно на дарогах з Дашоў у Косьную ды з Сухавольцаў у Сакі. **(гай)**

# Беларускія масоны

Пасля падпісання Рыжскага дагавора і падзелу Беларусі паміж Расіяй і Польшчай беларускія патрыёты прабавалі ўсялякіх метадаў, каб адкрыць Бацькаўшчыне нейкі шлях да свабоды. Адны сталі супрацоўнічаць з палякамі ў надзеі на атрыманне аўтаноміі Заходняй Беларусі, другія ўключыліся ў будаўніцтва Савецкай Беларусі, яшчэ іншыя прабавалі змагацца супраць акупацыі па абодвух баках рыжскай мяжы. Шмат стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі пакінула Бацькаўшчыну і, выбраўшы эміграцкі лёс, імкнуліся захаваць вернасць усім тым ідэям, якіх сімвалам быў Акт 25 Сакавіка.

У чэрвені 1921 года палітыкі, якія ўзначальвалі эміграцыйныя структуры БНР, заснавалі ў Коўне незвычайную арганізацыю — Беларускае брацтва. Заснавальнікамі былі, між іншым, Вацлаў Ластоўскі, Пётр Крэчэўскі, Васіль Захарка, Іван Краскоўскі, Кастусь Езавітаў, Лявон Заяц. Арганізацыя была пабудавана і дзейнічала паводле прынцыпаў масонскай ложы. Члены Брацтва кляліся на вернасць БНР, а ўрачыстая клятва заступала ўсе арганізацыйныя білеты і пасведчанні. Гонар сябра арганізацыі быў найвышэйшым паручэннем. Члены Брацтва віталіся заклікам: „Вялікая справа!" і адказам: „Справа Бацькаўшчыны!" Сходы брацтва, якія адбываліся штомесяц, не пратакалаваліся, арганізацыя не мела ні праграмы, ні статута. Мела аднак свае мэты. Найважнейшай было адраджэнне беларускага народа і незалежнасці краіны. Дзеля гэтага трэба было аб'яднаць усе патрыятычныя сілы вакол гэтай ідэі. Формула масонскай ложы была адкрыта для ўсіх, магла яднаць людзей розных партый, светапоглядаў, беларусаў-грамадзян розных краін, гарантавала свабодны абмен думкамі і не пакідала ніякіх кампраметуючых дакументаў. Класічная палітычная дзейнасць у тагачасных умовах была немагчымай. Калі нехта быў зацікаўлены беларускім палітычным рухам, як напрыклад літоўцы ці немцы, гэта толькі таму, што патрабаваў яго выкарыстаць дзеля сваіх мэтаў. У Радзе БНР выступалі розныя сілы; былі міністры дэлегаваныя ўсялякімі плынямі, якія не заўсёды кіраваліся нацыянальным інтарэсам. Камунізм у Беларусі тым часам будавалі людзі, якім ён асацыяваўся з нацыянальным інтарэсам. Такім дзеячам як Усевалад Ігнатоўскі брацтва было таксама шырока даступнае, таму што яны ў пэўным сэнсе рэалізавалі ягоныя мэты на практыцы. Цяжка сабе ўявіць іншую форму супрацоўніцтва савецкага і эміграцыйнага палітыкаў чым масонская ложа.

Брацтва з'яўлялася федэрацыяй некалькі ложаў. Кожная ложа мела свайго старшыню і сакратара. Раз у год адбываўся сход Галоўнай рады Беларускага брацтва, якую складалі прадстаўнікі паасобных ложаў. Новыя ложы маглі стварацца за згодай Галоўнай рады ва ўсіх краінах свету. Кожны, хто ўступаў у рады Брацтва, даваў абяцанне давяраць братам па арганізацыі, дапамагаць ім у кожнай патрэбе, даваць фальшывыя паказанні перад кожным судом і ўстановай, калі будзе гэта згодна з інтарэсам арганізацыі і яе членаў.

З прычыны адсутнасці дакументаў, адлюстроўваючых дзейнасць Беларускага брацтва, цяжка адказаць на пытанне, які яно мела ўплыў на рашэнне Ластоўскага, Цьвікевіча і іншых беларускіх эміграцыйных палітыкаў вярнуцца ў Менск у 1925-1926 гадах. Невядома таксама ці ехалі яны ў сталіцу Савецкай Беларусі рэалізаваць мэты арганізацыі, ці можа іх прыезд ад самага пачатку быў інспіраваны энкавэдзістамі.

У 1930 годзе ўсе члены Беларускага брацтва, якія пражывалі ў межах БССР, былі арыштаваны і абвінавачаны ў членстве падпольнай арганізацыі „Саюз вызвалення Беларусі", хаця такая ніколі не існавала і поўнасцю была прыдумана савецкай палітычнай паліцыяй — НКВД. Ігнатоўскі не перанёс здзекаў і паконччыў жыццё самагубствам. Іншыя, напрыклад Ластоўскі, падчас допытаў прызналіся да членства ў Беларускім брацтве і расказалі аб яго дзейнасці. Бальшавікі спалучылі прыезд эміграцыйных палітыкаў з прыдуманым сабою „Саюзам вызвалення Беларусі". Да іхняй версіі абвінавачання беларускіх інтэлектуалаў вельмі падыходзіла справа членства ў брацтве, якое паводле бальшавікоў было першапачатковай формай „Саюза вызвалення Беларусі". Бальшавікі не забывалі нікому і ніколі ніякай антысавецкай дзейнасці, хаця б была яна выключна тэарэтычнай. Усе члены брацтва, якія апынуліся ў іх руках, загінулі ў 1937 годзе.

Асноўнае пытанне ў справе Беларускага брацтва, на якое пакуль што няма адказу, гучыць: ці чэкісты мелі ў радах брацтва толькі сваіх інфарматараў, ці самі стварылі тайную арганізацыю, каб кантраляваць беларускую нацыянальную эліту. Адказ на гэтае пытанне дазволіў бы высветліць, які характар мела беларусізацыя рэспублікі дваццатых гадоў: ці было гэта ажыццяўленне інтэрнацыяналістычнай ідэалогі камуністаў, ці запланаваная палітычная камедыя?

**Яўген Міраповіч**

# Уступныя экзамены

26 чэрвеня стала вядомым, хто прыняты ў першыя класы Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў. У гэтым годзе пісьмовыя экзамены па польскай мове і матэматыцы праходзілі 22 і 23 чэрвеня. Формула іх была зусім іншая чым у мінулых гадах. Замест пісьмовых прац па польскай мове і матэматыцы былі тэсты.

— Па польскай мове былі 32 пытанні, а па матэматыцы 36. Апрача некалькіх апісальных задач па польскай мове, у кожным пытанні трэба было выбраць адзін адказ з ліку некалькіх прапанаваных, — сказаў намеснік дырэктара Гайнаўскага белліцэя Аляксандр Лаўрыновіч. — Калі нехта не справіўся з тэстамі, меў магчымасць папрaвіць вусна. У нашым ліцэі 6 асоб адказвалі вусна па матэматыцы, але былі і тры шасцёркі.

— Я думаю, што тэсты лепшыя чым ранейшая формула, бо больш ведаў можна праверыць лягчэй і хутчэй. Калі хочам рэфармаваць школьніцтва, вучні павінны да тэстаў прывыкаць, — сказала дырэктар Бельскага белліцэя Зінаіда Навіцкая. — Рэзультаты экзаменаў лічу добрымі, бо нікому не трэба было папраўляць вусна, а былі і шасцёркі — адна па польскай мове і чатыры па матэматыцы.

У гэтым годзе экзамены ў Гайнаўскім белліцэі праходзілі 127 асоб і ўсе былі прыняты. Найбольш вучняў было са школы н-р 2 (37 асоб) і школы н-р 6 (19). Пасля экзаменаў свае дакументы прынеслі яшчэ 23 асобы, якія справіліся з экзаменамі ў іншых школах, але там не былі прыняты.

— У гэтым годзе намерваемся прыняць 150 асоб, якія будуць вучыцца ў пяці класах, — сказаў намеснік дырэктара Аляксандр Лаўрыновіч. — Аб тым, каго прынясць дадаткова, вырашала чарговасць прашэнняў, якія прынеслі вучні.

У Бельску-Падляшскім свае прашэнні ў белліцэй прынеслі 105 асоб, сярод якіх было 73 выпускнікоў суседняй „тройкі" і ўсе яны былі прыняты.

— Думаем прыняць яшчэ недзе 20 вучняў, бо будзем ствараць чатыры першыя класы, але каб у кожным не было больш чым 32 асобы, — сказала на заканчэнне дырэктар Зінаіда Навіцкая.

**Аляксей Мароз**

# Даведнік пра Крыначку

Я вельмі ўзрадаваўся, калі мой сябра Міхась Байко з Гайнаўкі падарыў мне нядаўна невялікую кніжачку а. Яўгена Падгаецкага „150 lat św. Krynoczki", выдадзеную сёлета ў Бельску-Падляшскім. Гэтае святое месца ў Белавежскай пушчы, хаця славіцца ўжо шмат гадоў, не мела дагэтуль свайго даведніка. І хаця пра Крыначку неаднойчы пісалася ў розных часопісах (м.інш. і ў „Ніве") ці нават кніжках, то вядома, што не кожны мог пакарыстацца гэтымі публікацыямі. Кніжачка а. Яўгена дасканала выпаўніла існуючы выдавецкі прабел. Я таксама ўпэўнены, што яна хутка пашырыць інфармацыю пра гэтае месца сярод жыхароў так нашай, як і іншых дзяржаў, ды не толькі сярод праваслаўных, якія дагэтуль пра яго не ведалі.

Ва ўступе аўтар дакладна апісвае месцазнаходжанне святой Крыначкі, інфармуе, што гэта манаграфія выйшла ў свет у 150-тую гадавіну ўзвядзення тут царквы св. братоў Макавеяў. Разглядае таксама іншыя святыя месцы ў даваеннай і сённяшняй Польшчы сцвярджаючы, што Крыначка, паводле сваёй прывабнасці, займае зараз трэцяе месца пасярод праваслаўных культавых (паломніцкіх) месцаў у нашай дзяржаве.

Асноўная частка кніжкі прысвечана гісторыі месца. Паводле тутэйшай традыцыі, пачаткі Крыначкі звязаны з пачаткамі хрысціянства на гэтай тэрыторыі. Гаворыцца, што крыніцу са святой, цудадзейнай вадой выявілі манахі Кіеўска-пячэрскай лаўры. Сама царква паблізу святой крыніцы была пабудавана толькі ў 1848 г., пры настаяцелі Парфеніі Базылеўскім. На яе пабудову прыхаджане сабралі 150 рублёў. На крыніцы спярша пастаўлены быў драўляны, потым (у 20-х гадах) цэментавы калодзеж. Пасля II сусветнай вайны святое месца апынулася на тэрыторыі вайсковай часці. Былі спробы перанесці пастаўлены тут крыж пад вёску Ліпіны, а крынічную ваду прапанавалі... пампаваць пад перанесеную царкву (!). На шчасце, да гэтай прафанацыі не дайшло. Вайсковая часць абгарадзіла Крыначку калючым дротам і мела за ёю пастаянны нагляд. Усё-такі здараліся ўзломы ў святыню, выкрадаліся або знішчаліся іконы.

Зараз набажэнствы ў Крыначцы адбываюцца 14 жніўня (у дзень св. братоў Макавеяў), на другі і трэці дзень Святой Тройцы, 27 верасня (свята Уздзвіжання Крыжа) і на трэці дзень Вялікадня.

Асобны раздзел прысвечаны цудоўным аздараўленням у Крыначцы, звычаю пакідання ў святым месцы хустачак, пілігрымкам у Крыначку даўней і сёння, а таксама легендзе пра цуд і збудаванне Святой Крыначкі, значыць храма.

Уся кніжачка праілюстравана каляровымі (13) і чорна-белымі (3) здымкамі ды копіямі дакументаў звязаных з гэтым месцам.

**Пётр Байко**

# Нашы карані

### CXXI. За кардонам

Падзел і ўпадак Рэчы Паспалітай — гэта адна з самых трагічных падзеяў у гісторыі польскага народа. Але вышэйшай уніяцкай і каталіцкай іерархіі ад страты незалежнасці краінай і волас з галавы не ўпаў. А магнаты і заможная шляхта засыпалі імператрыцу Кацярыну II, цароў Паўла I і Аляксандра I, каралёў Вільгельма II і III, Габсбургаў вернападданніцкімі падзячнымі лістамі за „навядзенне парадку" ў Польшчы. Таксама апошні кароль Станіслаў Панятоўскі па загінуўшым каралеўстве не надта сумаваў, бавячыся ў пецярбургскіх палацах пад пільным вокам імператрыцы Кацярыны II. Усе пакуты чужаземнай няволі выпалі на долю простага люду, мяшчанства, малазаможнай шляхты, парафіяльнага духавенства.

Беласточчына ў 1795 годзе трапіла пад уладу Прусіі. З аднаго боку гэта даволі карысна паўздзейнічала на становішча праваслаўных, бо прускія ўлады да ўсіх веравызнанняў адносіліся аднолькава і не дазвалялі нікога праследаваць за веру ці перахрышчваць. На гэтым маленькім кавалачку былой Рэчы Паспалітай пасля доўгіх стагоддзяў паніжання і ўціску праваслаўныя сталі ўпоравень з каталікамі і уніятамі і карысталіся такой самай пашанай з боку ўладаў. Аднак з другога боку прускія ўлады забаранілі якую-колечы лучнасць праваслаўных і уніятаў са сваімі іерархамі, якія жылі па-за межамі Прускай дзяржавы і былі няпрускімі падданымі. Па гэтай прычыне праваслаўнаму духавенству Беласточчыны былі забаронены ўсе зносіны са сваімі іерархамі, а яны жылі ў Расейскай імперыі. Асабліва небяспечнае для праваслаўнай грамадскасці было тое, што кандыдатам на духоўных не дазвалялася падавацца да епіскапаў дзеля высвячэння ў духоўны сан. Таксама духавенству з Расейскай імперыі забаранялася прыбываць на Беласточчыну. Гэтае абмежаванне магло з бегам часу закончыцца трагічна для праваслаўнай Царквы на Беласточчыне.

І праваслаўныя і уніяты пачалі стаpанні пра пастаўленне ім епіскапаў. Уніятам пры падтрымцы каталіцкай іерархіі ў Прусіі ўдалося гэта вельмі хутка і гладка: у Супрасльскім манастыры была заснавана кафедра уніяцкага біскупа. Праваслаўных было ў дзесяць разоў меней, не знайшлі яны падтрымкі збоку і іхнія захады пра пастаўленне архірэя закончыліся безвынікова.

Такі стан працягваўся да 1807 года, калі ў выніку Тыльзіцкага дагавору Беластоцкая акруга перайшла ва ўладанне Расейскай імперыі, а праваслаўныя яе прыходы ўвайшлі ў склад Мінскай епархіі і знаходзіліся ў ёй аж да 1840 года.

**Мікола Гайдук**

Міра Лукша

# Русалчын дом

*(заканчэнне;*
*пачатак у папярэднім нумары)*

Газьбета ўсміхалася, глядзела на Зарэчнага, адстаўляла сваю бутэльку „аранжады”, брала Андруху за закарэлую далонь з паўрастанымі ў пальцы пазногцямі, ківала галавою:

— Ой, Андрэйка, хлопчыку, кінь ты піць тую паскудзь, кінь сваю красу і маладосць траціць! Ты ж такі добры, добры і відушчы, і розум твой вялікі, і шмат што мог бы ты людзям зрабіць...

— А ці я што кепскае каму раблю?! — вырываў руку Андруха з лёгкай, амаль празрыстай бабінай далоні, соўгаў яе ў кішэнь сваіх цікавых штаноў.

— Нічога не робіш, Андрушка, у тым справа...

Бегаў, бывала, за „дурной Газьбетай” табун дзяцей, рагаталі, празываліся. Але гэта было калісь. Сённяшнія малечы насцярожана пазіралі на яе незвычайнае адзенне, заглядалі ў снапкі зелля, якое перабірала на выгане, пра тое-сёе пыталіся, з ухмылкай слухаючы яе смешную польскую мову (мала якое з іх ведала хоць пару „простых” слоў). Больш цікавіліся яе асобай гарадскія дзеці, што летавалі у нашу аколіцу прыязджалі. Яны і прадзіраліся з „бабай Эляй” праз гушчар, лазілі па лугах, аж бацькі, павядомленыя спужанымі бабай ці дзедам, забаранялі ім хадзіць з „tą wariatką bo jeszcze co zrobi!”

Сёння ішла Газьбета ў Залуку. Свята хацела зрабіць, паспяваць крыху — прыехалі ў Сцяпанаву хату госці з Беластока, прывезлі і самога Сцяпана. Ён вось ездзіць па зарослым агародзе, аж каляска падскоквае па здзірванелых загонах. Рукі ў яго яшчэ дужыя, круціць імі колы каляскі, кіруе рулём, але нейкі ўжо слабы сам, чахлы, ад гарадскога можа жыцця, хоць, кажа, рай яму там у Януся ў Беластоку. Падыхаць старому хочацца сваім, то і прывёз яго Янусь „Фіатам” на загоны. Сцяпанава хата амаль на самым беразе стаіць, і якасьці не хіліцца, бо на сухім астраўку яна, але ўсё цяжэй туды даехаць, усё больш гразка наўкол робіцца, пакінутым хатам падгніваюць падрубы, зрубы парахнеюць, асядаюць. З таго боку ўжо цвіллю нясе, смерцю. Усюды жыццё буяе, нават на могільніку тут яно, — такія там разгалістыя, шумналістыя дрэвы, галасістыя птушкі, цвыркуны і жабы — а тут быццам страх птаху збочыць, каб не засмактала яго ўспатнелая, змучаная зямля.

Сабраліся ў Сцяпана ўсе тыя, хто астаўся ў суседнім пасёлку. Янусь пакінуў бацьку разам з пачастункам — з торбамі поўнымі ежы і бутэлек, абяцаў прыехаць да змроку, бо нельга было старому аставацца ў сырасці, рвала ў касцях, адзываліся прастрэленыя ў партызанцы лёгкія. Прыйшоў Віцак з паўкіло „звычайнай” каўбасы, Гандзя Канчэўская з бутэлькаю парэчкавага віна закаркаванай анучкаю — добрае вінцо выхадзілася, прытэпала памаленьку Люба з-за хваінкі, з лазовым кошычкам — напякла залацістых пернікаў, узяла і слоік брушнічнага варэння. На старым провары прыкаціў касцісты Рыгор Новік, праз плячо з мяшочкам з закуссю і бутэлькай, яшчэ з Каляд; бутэлька абівалася па Рыгоравых рабрынах, калі з натугаю націскаў на педаль хвораю нагою. Цяжка дыхаючы, ад аўтобуснага прыпынка прынёс сваё магутнае мяккае цела Яська Бэзубік, перакідаючы з рукі ў руку цяжкую цыраваную торбу з падзертымі ручкамі — надавала яму Анюта падарункаў для Сцяпана і ўсяе кампаніі. Паштарскі самаход падвёз Бяльчанак — Анелю ды Адэлю; яны цяпер у Гайнаўцы, усё незамужнія, але ад гарадскіх аматараў не могуць адбіцца, якраз на старыя гады.

Расклалі прыпасы пад хатай на клятчатых пледах, парэзалі хлеб, адкаркавалі бутэлькі... Хто сеў на коўбіку, хто ўладкаваўся на паваленым пянёчку, рэшта з крэктам ды стогнам пасядала на хустках і летніках. І ўставаць не хочацца, і цяжка, толькі Анеля з Адэляй бегаюць, як заўсёды лёгкія, наліваюць, падаюць ежу на лапухах...

— От, урэшце паспяваць можам што іншае, *чым* па пакойніку, а то ўсё... — выцерла вусны ільнянай хустачкай Гандзя, прыўстала на калені, набрала паветра ў грудзі і зацягнула:

*— Песенька мая харошая, ууу! Схаваю цябе к налецейку! Да к налецейку, к Ушэсцейку. Паеду ў поле з сахою, вазьму песеньку з сабою...*

Прыўстаў на сухія калені Віцак, замахнуўся каўбасою ў такт:

*— Вол бушуе — вясну чуе, воран крача — сыра хоча. Воран крача — сыра хоча, дзеўка плача — замуж хоча! Не крач, воран — нажарэшся, не плач, дзеўка, — нажывешся!*

Са смехам ляпнуў Віцак Газьбеце па спадніцах. Яна адняла ад паморшчаных вуснаў кавалачак хлеба, памаленьку паклала яго на лапух, устала, падпіраючыся ўсім целам на рукі:

*— На граной нядзелі русалкі сядзелі. Ой, рана-рана, русалкі сядзелі. Русалкі сядзелі, на Бога глядзелі, ой, рана-рана, на Бога глядзелі. На новай сялібе пшаніца стаяла. Ой, рана-рана, пшаніца стаяла. Пшаніца стаяла, каласком махала...*

Далучыліся ўсе цёткі, зацягнулі, заглядзеліся ў бок возера вачымі быццам невідушчымі, бо ў душу вады глядзелі.

Газьбета выцягнулася, выпраставала сутулую спіну. Глядзела ў бок возера, што стальным жыватом выпучалася да бухматага неба.

Забурчэла нешта ад шашы. У бок Сцяпанавай хаты накіроўваліся бліскучыя машыны — адна легкавая і дзве высокія, з шырокімі блакітнымі дзвярамі.

*— Дзевачкі ж, сястрычкі, падайце ж вадзічкі...* — працягвала Газьбета, але іншыя заціхлі, з цікавасцю адвярнуліся ў бок дарогі.

*— Цяжка мне стаяці, каласком махаці. Ой, рана-рана...* — тоненька пяяла Газьбета, глядзела на ваду і неба, на новыя, сучасныя будынкі пасёлка, што рассеўся на другім беразе.

З машын выскачылі мужчыны ў скураных куртках, з нейкімі прыладамі ў руках. Бабулі спахапіліся, кінуліся папраўляць хусткі, мужыкі ўзяліся зашпіляць гузікі.

— О, тэлевізыя, — заўважыў Віцак.

— Здымаць нас тут думаюць, старых?.. Пакажуць у тэлевізары? О, людкове...

— Няма чаго хваліцца, паказваць чужым сваю старасць! — Гандзя насунула на нос хустку.

— Гэта ж мы фальклор тут маем, можа не? — засмяяўся Сцяпан і пакаціў сваю каляску ў бок, дзе чужыя, не пытаючыся, расстаўлялі апаратуру.

— Хто сюды іх прасіць?! — сарвала з галавы свой вянок Газьбета. — Чаго ім тут трэба?! Прэч!

Газьбета падхапіла ў жменю спадніцы, перакрочыла булку хлеба, што ляжала збоку на ручніку.

— Даруй мне, хлебец, — шапнула, заўважыўшы свой грэх, і накіравалася за агарод, у бок луга. Аператар з камерай на плячы пабег за ёю.

*— Ой, мы былі ды ў велікім лесі, ды ізьвілі куста із шырокаго клёну, —* Газьбецін голас ставаўся ўсё менш чутным з-пад Сцяпанавае хаты. — *Ой, Тройца, Тройца, ды пасеем жыта, ды няхай зародзіцца...*

Аператар забег Газьбеце дарогу. Адмахнулася ад яго, як ад назойлівай мухі, і цягнула далей:

*— Няхай наша жыта ды ў полі буяе, ой, няхай куст наш дый па свеце гуляе!*

Змоўкла, кіношнік ухапіў у аб'ектыў яе востры профіль, кавалак неба і вады, зрабіў панараму злева ўправа па возеры і вярнуўся на Сцяпанаў падворак, дзе яго калегі заўзята здымалі фальклор.

# Конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Завяршыўся III Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. З гэтай нагоды 26 чэрвеня г.г. у Бельскім доме культуры адбылася ўрачыстасць ўручэння ўзнагарод аўтарам лепшых вершаў і апавяданняў.**



*Старэйшыя ўдзельнікі літаратурнага конурсу (злева): Мікалай Панфілюк, Вольга Анацік, Ірына Лукша, Анна Яканюк, Мікалай Лук'янюк, Зінаіда Лукша-Кавалевіч з унукам Радаславам і Марыя Манаховіч.*
Фота Міры Лукшы

Трэці год запар Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай і рэдакцыя „Нівы” праводзяць конкурс беларускай паэзіі і прозы для аматараў прыгожага пісьменства, якія не з'яўляюцца членамі творчых аб'яднанняў. Трохгадовы вопыт дае арганізатарам падставу меркаваць, што ініцыятыва аказалася патрэбнай, а доказам гэтаму можа быць лік удзельнікаў гэтага літаратурнага спаборніцтва. У 1996 годзе на конкурс было дасланых 20 прац, у мінулым годзе — 34, а сёлета — 36. Трэба прытым адзначыць, што амаль палову ўдзельнікаў сёлетняга конкурсу складалі асобы, якія ўпершыню прынялі ў ім удзел. Расце таксама колькасць удзельнікаў конкурсу сярод ліцэістаў (у паасобных гадах адпаведна 7, 10, 13). Гэта таксама сведчыць аб тым, што конкурс знаходзіць цікавасць у штораз шырэйшым коле людзей, якія не толькі чытаюць, але і прабуюць пісаць. Мабыць, некаторыя сённяшнія пачаткоўцы з часам стануць прафесійна займацца літаратурай.

Сёлета вучні падставовых школ даслалі 5, ліцэісты — 13, а дарослыя — 18 прац. Ацаніла іх кампетэнтнае журы, якое састаўлялі вядомыя літаратары: паэтэса Надзея Артымовіч, паэт Ян Леанчук і пісьменнік Сакрат Яновіч. Конкурсная камісія, якая засядала 10 чэрвеня г.г., вырашыла не прысвойваць месцаў і звярнула ўвагу на тэксты ніжэй пералічаных аўтараў:

**I група** (вучні падставовых школ): **Жанэта Роля** („Балотнік”) і **Іаланта Антанюк** („Нікіта”) з Бельска-Падляшскага.

**II група** (вучні сярэдніх школ): **Ірына Радзіванюк** („Іра”) з Койлаў, **Моніка Юрчук** („Мона”) і **Юстына Каралько** („Мост”) з Бельска-Падляшскага ды **Ігар Іванюк** („Невук”) з Гайнаўкі.

**III група** (дарослыя): **Рэната Бельмін** („Каліна”) з Беластока і **Міхал Андрасюк** („Калі Сон”) з Гайнаўкі. У гэтай групе вылучэнні ў катэгорыі **народнай творчасці** атрымалі: **Мікалай Лук'янюк** („Ярош”) з Бялкоў, **Вольга Анацік** („Вольга”) з Аўгустова, **Зінаіда Лукша-Кавалевіч** („Бабуня”) з Беластока і **Ірына Лукша** („Вецер”) з Гайнаўкі.

У Бельск-Падляшскі прыехалі амаль усе ўдзельнікі конкурсу. Арганізатары ў асобах старшыні Беларускага саюза Яўгена Вапы і ніжэйпадпісанага вылучаным журы аўтарам уручылі рэчавыя і грашовыя ўзнагароды, а астатнім удзельнікам літаратурнага спаборніцтва — сувеніры. Старшыня конкурснай камісіі Надзея Артымовіч падвяла вынікі літаратурнага спаборніцтва, а супрацоўніца Бельскага дома культуры Альжбета Тамчук паставіла падрыхтаваны дзіцячым калектывам літаратурны мантаж, у якім былі выкарыстаны надасланыя на конкурс творы.

Плёнам конкурсу будзе чарговы літаратурны зборнік, які з'явіцца на кніжных паліцах сёлетняй восенню.

**Віталь Луба**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Арганізатары III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы ўручаюць узнагароду Жанэце Ролі.* Фота Міры ЛУКШЫ

***Вершы Жанэты Ролі былі ўзнагароджаны ў III Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы.***

### *Наіўнасць*

я — пачвара
ты — індывідуальнасць
пяшчота...
прыгажосць...
любоў...
навошта была вера, надзея
адказ — для маёй
празтадушнасці.

### *Магчымасці*

Учора...
сёння...
заўтра...
Для цябе —
успаміны...
амбіцыі...
цікавасць...
Для яго —
шчасце...
манатонія...
мары...
Для яе —
звычайнасць...
гора...
надзея...
Для мяне —
няўпэўненасць...
імкненні...
спадзяванні...
Колькі нас —
Столькі магчымасцяў.

### *Позірк*

Вочы — люстра душы.
Каханне — гарачае, сляпое.
Люстра адбіла праменні.
Мы сталі сляпымі.

### *Бажаство*

Пры ім стала язычніцай.
Ён быў яе бажаством.
Яго вочы замянілі крыж,
Слова — змест Бібліі,
Пацалунак — малітву.

## *Польска-беларуская крыжаванка № 28*




**Адказ на крыжаванку н-р 24:** Голад, ліс, чахол, калька. Золак, ліха, пасол, даль, казка.

## *Пра сустрэчу з Барысам Руско*

У апошні час часта адбываюцца Сустрэчы „Зоркі". У іх удзельнічае моладзь і дзеці з розных мясцін Беласточчыны. Таксама 5 чэрвеня г.г. у Белавежы пачаўся першы дзень Сустрэч, на якіх я была першы раз.

На працягу трох дзён мы сутыкнуліся з вельмі цікавымі людзьмі, між іншым, з паэтам, жыхарам Белавежы — Барысам Руско. Пры вогнішчы паэт расказаў нам аб сваёй творчасці, аб вершах, якія піша на аснове свайго жыцця. Напрыклад: што бачыць у час прагулкі па пушчы?.. Паразмаўлялі мы пра тое, як напісаць добры верш.

Асабліва зацікавіла мяне як паэт разумее значэнне вершаў, якія сам піша. Аўтар дбае пра цікавы слоўнік з многазначнымі словамі, што ў кароткім вершы дае добры эфект.

Барыс Руско з'яўляецца гонарам Белавежы. Піша прыгожыя творы для „вялікіх і малых людзей".

**Эва Прафірук, VII „а" клас, ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім**

# *Селянін, граф і звон*

***(аўстрыйская казка)***

Жыў на свеце адзін багаты граф. Як сыр у масле плаваў, законы сваёй краіны ні ў грош не ставіў. Усё ў ваколіцы павінна было быць, як ён скажа і як захоча.

Выправіўся аднойчы граф на прагулку і ўбачыў на ўзлессі вялікі ды прыгожы сялянскі дом. Спадабаўся дом графу. Агледзеў ён яго з усіх бакоў і да дзвярэй пад'язджае.

Выйшаў на ганак гаспадар дома. Павітаўся з ім граф і пытаецца:

— Гэй, гаспадар! Ці не хочаш дом прадаць? Я не паскуплюся, грошай не пашкадую.

Селянін, доўга не думаючы, адказаў:

— Не, ваша светласць, ніякай куплі-продажу ў нас не выйдзе! У сядзібе гэтай яшчэ прадзеды мае жылі, хочацца і мне тут свае дні правесці. Так што маёнтак мой пры мне застанецца.

Граф яму і кажа:

— Даю тэрмін да заўтра! Падумай як трэба.

Ускочыў граф на каня і прэч паскакаў. Селянін паківаў галавой і думае: „Нічога з гэтай забавы ў графа не выйдзе".

На другі дзень раніцай, на золку, прыскакаў граф да селяніна.

— Ну, якое тваё апошняе слова?

А селянін адказвае:

— Я, ваша светласць, ад слова свайго не адступлюся. На сваёй сядзібе застануся, вось і ўвесь сказ!

Раззлаваўся граф і крычыць:

— Пытаюся яшчэ раз: аддасі сядзібу дабром? Не аддасі — на сябе крыўдуй! Усё адно яна мне дастанецца!

Паківаў селянін галавой і кажа графу:

— Я словамі не кідаюся: сядзібу сваю не прадам.

Ледзь не лопнуў граф ад злосці і паскакаў з узлесся. Вядомая рэч: багаты — што бык рагаты. Памчаўся граф проста да суцягаў-судзейскіх, шчодра іх золатам абдарыў і загадаў цяжбу з селянінам пачаць. Судзейскія ведалі, што багацей за графа ў ваколіцы чалавека няма. Значыць, калі яны справу выйграюць, золата на іх дажджом пасыплецца. Вось таму і паабяцалі яны графу селяніна ўгаварыць. А ўжо калі не згодзіцца па-добраму сядзібу аддаць, давесці яго да галечы.

Паслалі судзейскія па селянінаслужыцеля. Прыйшоў селянін у суд, а яны ў яго пытаюцца:

— Прадасі сядзібу ці не?

— Не, — цвёрда адказвае селянін. Як ні ўгаворвалі, на сваім стаіць.

— Давядзецца табе з графам цяжбу весці! — узлаваліся судзейскія.

— Ну што ж, судзіцца дык судзіцца! — кажа селянін.

Усе кручкатворы-судзейскія заадно з графам былі, а за селяніна заступіцца няма каму. Пачалася тут цяжба. Селяніна раз за разам у горад валочаць. Грошай гэта яму каштавала процьму, і залез ён па вушы ў даўгі. Нарэшце судзейскія вырашылі: селяніна з двара вытурыць, сядзібу ў яго адабраць і графу яе аддаць. Засталася ў селяніна ўсяго сотня гульдэнаў.

З маіх падарожжаў

# Пуп Зямлі або Пад гарой Парнас



*Пуп Зямлі.* Фота Ады ЧАЧУГІ

Ці ведаеце вы, дзе знаходзіцца пуп Зямлі? А вось жа і не ў Беластоку. А нават і не ў Польшчы. Пуп Зямлі знаходзіцца ў Грэцыі, а дакладней у Дэльфах. Я яго нават бачыла!

Старажытныя Дэльфы былі пабудаваны ў дзікім месцы пад гарою, а фактычна пад цэлым горным масівам Парнас, непадалёку ад святой крыніцы Касталія. Лічаць, што найбольшае значэнне Дэльфы мелі ў VI стагоддзі да нашай эры.

Легенды гавораць аб тым, што тут была сядзіба багоў. Калісьці Зеўс выпусціў двух арлоў, якія мелі спаткацца ў найдаўнейшым месцы свету. І арлы спаткаліся якраз тут, пад гарой Парнас.

Глянуўшы на горныя краявіды і расліннасць нязвыклай прыгажосці, а да таго ўзяўшы пад увагу нярэдкія тут землятрусы і лавіны, можна зразумець, чаму старажытныя людзі лічылі Дэльфы цэнтрам зямлі.

На працягу больш тысячы гадоў ішлі сюды па небяспечных сцежках людзі, якія шукалі боскай парады ў розных справах: вайсковых, палітычных, рэлігійных, гандлёвых, а таксама ў справах кахання. Пілігрымы прыносілі з сабою ахвяры.

Раскопкі ў старажытных Дэльфах пачалі французы ў 1892 годзе. У 1903 годзе быў пабудаваны музей, у якім мелі змяшчацца знойдзеныя скарбы.

Пазнейшыя раскопкі, аднак, прынеслі шмат іншых адкрыццяў і яны вядуцца таксама ў сённяшнія дні. Напрыклад, бык з серабра і золата з VI ст. да нашай эры, які знаходзіцца ў музеі, быў знойдзены толькі ў 1939 годзе. У гэтым музеі знаходзіцца таксама першы нотны запіс на Захадзе — у мармуры. Быў гэта гімн Апалона.

У Дэльфах знаходзіцца дзве святыні: Апалона і, крыху ніжэй, — святыня Афіны, якая мела сцерагчы, ахоўваць Апалона.

Вышэй святыні Апалона знаходзіцца тэатр, пабудаваны ў IV стагоддзі да нашай эры. У ім было пяць тысяч месц. Штогод у чэрвені ў гэтым старажытным тэатры адбываюцца прадстаўленні класічных грэцкіх драм.

Яшчэ вышэй знаходзіцца стадыён з II стагоддзя нашай эры. Тут мы з Матэушам Задыковічам з Беластока (Падставовая школа нумар 1) рашыліся пабегаць.

Цяжка было ісці наверх па вымашчанай каменнымі глыбамі дарозе. Сыходзілася лягчэй, хаця было слізка. Са стадыёна мы выходзілі апошнія. Я глянула, а на камені ляжыць новенькая дамская сумачка. „Ну, нехта рабіў ужо здымкі!" — сказала мая бабуля. Мы вырашылі ўзяць гэту сумачку і аднесці ўніз. Адчынілі яе, каб даведацца, чыя яна. А Божа! Колькі там было грошай! І долары, і драхмы, і нейкія чэкі. Быў і пашпарт: амерыканка! Мы аж спужаліся, але занеслі сумачку ўніз і аддалі яе нашаму грэцкаму правадніку (калісьці ён жыў у Польшчы, а пасля вярнуўся ў Афіны).

Каля будынка музея ўжо стаяла і ламантавала пажылая жанчына, якая згубіла сумку. Калі праваднік ёй аддаў згубу, яна была вельмі шчаслівая.

Ага, я ледзь не забылася пра „пуп Зямлі". Ён стаіць на малым п'едэстале ў самым пачатку дарогі наверх, да багоў.

**Адрыяна Семянюк**

## Чараўнік

*Музыка Анны Бабік*
*Словы Міраславы Лукшы*




Як вынеслі судзейскія прыгавор, стаў ён іх дакараць і кажа:

— Калі на зямлі справядлівасці нікай не засталося, то ану ж на нябёсах знойдзецца!

Засмяяліся паны судзейскія:

— Справядлівасць і на зямлі, і на нябёсах даўным-даўно памерла!

Прамаўчаў селянін, з суда выйшаў і проста да пастара ў царкву накіраваўся. Як убачыў пастар, што даўні яго знаёмы селянін ідзе, ён яму і кажа:

— Дзень добры, Ганс! Праведаць мяне захацеў?

— Але, — адказаў Ганс, — толькі справы ў мяне невясёлыя.

Расказаў ён пастару сваю прыгоду і скончыў яе так:

— Усяго ў мяне цяпер сотня гульдэнаў засталася, я іх табе аддаю. Столькі ў вас у горадзе плацяць, каб вялікі царкоўны звон па нябожчыку званіў. Вось табе грошы, і давай звані хутчэй. Няхай звон па Справядлівасці адзвоніць, бо яна памерла. Але, глядзі, як даўжэй звані!

Узяў пастар грошы, паклікаў служыцеля, падняліся яны на званіцу, зазванілі ў вялікі звон. І званілі намнога даўжэй, чым звычайна. Пайшлі тут у горадзе роспыты, здагадкі: хто памёр ды па кім так доўга звон звоніць. Але ніхто толкам не ведаў.

Сабраўся на пляцы народ, пачаў крычаць:

— Чаму такі звон стаіць?

Знайшліся людзі добрыя, расказалі, якую несправядлівасць судзейскія вытварылі. Яшчэ мацней пачаў народ крычаць ды патрабаваць для графа пакарання. Спужаліся граф з судзейскімі і вярнулі селяніну яго сядзібу.

# Міфы старой Беларусі

**32.Пярун**

Калі загрыміць гром, то мужыкі ляцелі стралою па сваіх хатах, прыгаварваючы: „Ай, Пярун заб'е!" На іх думку, гэта Пярун (бог) раз'язджае па небе і дзе ўбачыць, што людзі твораць брыдкае, разбівае скалы і пускае на зямлю агонь-маланку. Казалі яшчэ так: „Гэта Пярун пускае стралу з неба". Таму ў будынках, куды яна скіруецца, шчыліны дакладна такія, якія бываюць ад стрэл. Людзі не верылі, што гэты агонь (маланка) мае такую сілу, як звычайны агонь. Пярун — бог нябеснага агню свае ўдары скіроўвае найчасцей на горы. У час навальніцы чорт любіць хавацца пад дрэвам, таму небяспечна станавіцца пад дрэвы, каб схавацца ад дажджу: замест чорта Пярун можа забіць чалавека. Пры громе і маланцы трэба хрысціцца, каб адагнаць ад сабе чорта.

Некаторыя лічылі, што Пярун трымае ў руках двое велізарных жорнаў, трэ імі і стукае адзін аб адзін. Драбкі жорнаў, што адскокваюць ад удараў, ляцяць на зямлю і паражаюць, як стрэлы. „Перуновымі стрэламі" народ называў каменныя сякеры і нажы.

Пярун велічны, статны, высокага росту, з чорнымі валасамі і доўгай залатой барадою. Седзячы ў вогненнай калясніцы раз'язджае па небе. Сваімі стрэламі знішчае варожае войска Чарнабога (яно збірае чорныя хмары, каб затуманіць сонца, сарваць месяц, сцягнуць у хмары ўсю ваду). Пярун ударам молата разбівае хмару і апладняльная вада льецца на зямлю. Чэрці ведаюць, што Пярун любіць чалавека і беражэ яго, таму ўцякаюць у яго жытло. Калі выпадкам Пярун, б'ючы ў сялібы, дзе схаваліся чэрці, заб'е чалавека, то багі ўзнагародзяць яго ў будучым жыцці. Таму беларусы на адважваліся ратаваць чалавека, які загінуў ад грому; душа чалавека, якога забіў гром, ідзе проста ў неба. За страту ад пажару Пярун таксама багата ўзнагароджвае.

# Усе — вялікамучанікі...



Справа налева: сп. сп. Ніна Нікіціна, Надзя Барт і пакойны муж Ніны — Сяргей.

*„Чаму я чорны, мама?..“*
*Юрка Геніюш*

Са спадарыняй Нінай Нікіцінай лёс звёў мяне выпадкова. Аднаго чэрвеньскага дня 1995 года мне пазваніла спадарыня Надзя Барт з Заўльгаў у Нямеччыне і сказала, што яна ў Беластоку ў спадарства Нікіціных. Ну, і каб сустрэцца.

Я не ведала, што Ніна Нікіціна гэта сваячка Юркі Геніюша, якая адыграла немалую ролю ў яго жыцці. Калі даведалася — не магла ўстрымацца ад пазнейшых роспытаў пра нашага заўчасна адышоўшага калегу, паэта і пісьменніка — па душы, лекара — па прафесіі, ну, і сына паэткі Ларысы Геніюш.

Бабуля сп. Ніны была роднай сястрой Юркавага дзеда, а яе маці — дваюраднай сястрой яго бацькі. Значыць, яна — траюрадная сястра Юркі, хаця ён быў за яе значна малодшы.

Сп. Ніна добра памятае дзядзю Ваню, Івана Пятровіча Геніюша, які штудзіраваў у Вільні медыцыну. За моцныя беларускія перакананні яго выключылі і далейшую вучобу ён працягваў у Празе. Там жа навуку скончыў і пачаў працаваць.

Прыязджаў ён дахаты, да бацькоў. Шукаў жонку, абавязкова, каб была беларускай. Ну, і знайшоў. Ларыса была з маёнтка.

Дзядзя Ваня ажаніўся і паехаў у Прагу. У 1939 годзе яны прыехалі ў Зэльву на канікулы з малым Юркам. Тут іх застала вайна, і яны не маглі вярнуцца дахаты. А ў Празе мелі працу, багатую кватэру і ўсё, што трэба. Сяргей, брат сп. Ніны, там быў і бачыў. Жылі яны на высокім узроўні.

Не ведаю як, але ім усё ж удалося вярнуцца ў Прагу, хаця даволі доўга яны сядзелі ў Зэльве, успамінае сп. Ніна. Дзядзя Ваня мяне вельмі любіў. Калі прыязджаў у Слонім да нас, ахвотна праводзіў мяне ў гімназію і сустракаў, калі я вярталася.

Пасля вайны Геніюшаў арыштавалі ў Празе. Сп. Ніна гаворыць, што Юрку было тады 11-12 гадоў. Мне ён калісь прызнаўся, што да дванаццаці гадоў размаўляў на вуліцы на чэшскай мове.

Прыйшлі дахаты і загадалі пакавацца і збірацца ў дарогу. У суматосе ім удалося падкінуць камусьці Юрку. Яны яго схавалі ці не ў суседзяў, якіх папрасілі, каб яны звязаліся з польскім пасольствам у Празе.

Сапраўды, польскае пасольства забрала Юрку і неяк ім удалося перакінуць яго ў Вроцлаў, дзе жылі дзве сястры Ларысы Геніюш.

У Вроцлаве Юрка скончыў школу і вячэрні ліцэй. Вучачыся ў ліцэі, ён цяжка працаваў на сталеліцейным заводзе. Пасля працаваў на фабрыцы ёлачных цацак, да сёння памятаю, як прысылаў цацкі і мне, уздыхае сп. Ніна.

Тым часам вярнуліся са ссылкі бацькі Юркі. Калі ліквідавалі тыя лагеры і ссыльных распускалі дахаты, ім не дазволілі ехаць у Прагу. Загадалі вярнуцца на Беларусь, паколькі яны пісалі, што яны — беларусы. Трэба было ехаць туды, дзе яны нарадзіліся і жылі. Таму яны прыехалі ў Зэльву.

Мае бацькі, кажа сп. Ніна, жылі тады ў Міжрэччы, каля Зэльвы. Бацька мой, Мікалай Сыантовіч, быў праваслаўным святарнікам і меў там прыход. Юркавы бацькі звярнуліся да маёй мамы і папрасілі, каб я заапекавалася Юркам, якому ў Вроцлаве было даволі цяжка. Цёця Ларыса так і напісала: „Ниночка, спасай Юрку, ему там плохо“. Так, напісала па-руску, бо магла напісаць як хочаш.

Во дзядзя Ваня дык быў непахісным беларусам. Сваёй маці Эміліі Палубінскай, якая паходзіла са знатнай сям'і і была полькай і каталічкай, ён пісаў лісты на беларускай мове. Яна гэтыя лісты расчытвала з цяжкасцю, дык калісь папрасіла яго, каб ён пісаў па-польску ці па-руску. Дзядзя Ваня абразіўся і зусім перастаў пісаць.

Але да справы, уздыхнула сп. Ніна. У сваім пісьме Ларыса дала мне Юркаў адрас у Вроцлаве і я напісала яму пісьмо, у якім прасіла яго прыехаць у Беласток. Дагэтуль я нават не ведала, што ён жыве ў Польшчы.

Юрка прыехаў да мяне, калі закончыў сярэднюю школу. Яму тут вельмі спадабалася. Па бацьку цягнула яго да медыцыны, і мы з маім мужам Сяргеем запрапанавалі, каб ён здаваў у Медыцынскую акадэмію.

Юрка здаў, але не хацеў чакаць, калі будуць вынікі, бо меў запрашэнне ад вярнуўшыхся з Сібіры бацькоў і хацеў як мага хутчэй, упершыню пасля сваіх бадзянняў, убачыцца з бацькамі.

Я мела прасачыць, ці будзе ён у спіску паступіўшых. Калі ён паступіў, я адразу пабегла на пошту і дала тэлеграму ў Зэльву, што яго прынялі ў лік студэнтаў.

Мой бацька, які тады яшчэ жыў у Зэльве (толькі пазней мае бацькі пераехалі ў Беласток) расказваў, што калі Юрка прыехаў аўтобусам у Зэльву, мноства людзей прыйшло яго прывітаць. Мой бацька так і сказаў: „Уся Зэльва выйшла яго сустракаць!“

Юрка вярнуўся, жыў у нас. Праз нейкі час я выстаралася яму месца ў інтэрнаце Акадэміі. Пасля ўжо ён ездзіў у Зэльву рэгулярна, а нават адтуль прывёз сабе жонку.

Спадарыня Ніна задумваецца. Усе — вялікамучанікі, — кажа, — у Беларусі, у Расіі, на Украіне... Юрка прыносіў мне неапублікаваныя вершы, раіўся, чытаў: „Чаму я чорны, мама?..“ Усё прыносіў — і п'есы, і фельетоны. Вы ж там у „Ніве“ публікавалі.

* * *

Са сп. Нінай Барт (таксама выпускніцай Слонімскай гімназіі) сп. Ніна Нікіціна сустрэлася некалькі гадоў таму ў Бельгіі, у сп. Зоі Смаршчок у час адзначэння першай гадавіны смерці яе мужа, дваюраднага брата сп. Ніны — Яўгена Смаршчка. Ён раней выкладаў славістыку ў Антверпене, а пасля закончыў у Парыжы тэалогію і быў святарнікам у беларускай царкве ў Бельгіі, у Ватэрлоо.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# „Рэпатрыянцкая валізка“ ў Аліве

У Этнаграфічным музеі ў Гданьску-Аліве (у аліўскім парку) да канца жніўня будзе адкрыта рэпатрыянцкая выстава. Выстаўку інспіравала кніжка Аляксандра Юрэвіча „Ліда“, які ў пяцігадовым узросце разам з бацькамі падаўся ў Польшчу. Гэтая сапраўды пачуццёвая літаратура кранае кожнага. Фрагменты „Ліды“, павялічаны да экспазіцыйных памераў, складаюць аснову выстаўкі, якая падзяляецца на дзве часткі: сялянскую і гарадскую. Выразна адрозніваюцца прылады, якія вывозілі простыя людзі з Віленшчыны, Гродзеншчыны (бо перад усім адтуль прыехалі рэпатрыянты на Памор'е). Тут і радзюжкі, і саматканыя ходнікі і дываны, вышываныя кашулі і самаробныя спадніцы, маслабойкі, калаўроткі, сундукі, хамуты. Усё гэта характэрна для тыповай беларускай этнаграфіі.

Зусім іншыя рэчы вывозіла інтэлігенцыя — перад усім кніжкі, здымкі і сямейныя памяткі, часта выязджаючы сапраўды толькі з адной валізкай. А дарога гэта часта вяла з Сібіры ці Казахстана. Сярод здымкаў — віды Вільні, Львова і „крэсавых“ двароў. На адным з іх, дзе прадстаўлены прафесары Віленскай тэхнічнай школы, я знайшла і Антона Нэканду-Трэпку, які быў там дэканам электрычнага факультэта. Ён — вядомы беларускі грамадска-асветны дзеяч.

„Рэпатрыянты“ падаравалі на выстаўку свае падарожныя валізкі, у якіх перавезлі ўсё сваё дабро. Такую валізку, як нейкую рэліквію, перахоўвае таксама Аляксандр Юрэвіч у сваім гданьскім доме.

Выставу арганізавала Вікторыя Бляхарска. Экспанаты на выстаўку ўзяты з музеяў Зялёнай Гуры, Ольштына, Познані і Слупска, а таксама з прыватных збораў, між іншым Аліны Афанасевай і літаратара Збігнева Жакевіча.

Да выстаўкі выдадзены інфарматар, у якім рэпатрыянцкую рэчаіснасць успамінае Вікторыя Бляхарска: „Pamiętam też doskonale drucianą siatkę, jaką odgrodzili się od nas autochtoni z sąsiedniego domu, zakazując swoim dzieciom bawić się z nami. Byliśmy, o zgrozo, «czerwoni»! Nasz dom, gdzie umieszczono około 70 rodzin ze Wschodu nazywano «ambasadą radziecką» i wytykano palcami. Opowiadano niestworzone historie o tym, jak nie umiemy znaleźć się w cywilizowanym świecie, hodując w łazienkach kury i inny inwentarz. Tyle upokorzeń, tyle wstydu!“ (s.12)

На жаль, выстаўка поўнасцю насычана польскім духам і надалей не паказвае, што сярод рэпатрыянтаў былі таксама беларусы (вывозілі яны з сабой беларускія кнігі і іншыя нацыянальныя скарбы) і татары. Варта было б ужо пачаць гаварыць пра рэпатрыяцыю як пра палітычную з'яву, якая найбольш спрыяла палякам, але якою карысталіся тыя татары і беларусы.

**Лена Глагоўская**

# Пушчанскія матылі

17 вялікіх каляровых здымкаў састаўляюць выстаўку „Дзённыя матылі Белавежскай пушчы“, якая з чэрвеня г.г. экспануецца ў памяшканні Прыродазнаўчага музея ў Белавежы. Аўтарам здымкаў з'яўляецца Павел Баркоўскі з Варшавы. Ён па-аматарску цікавіцца так фатаграфіяй, як і калекцыніраваннем матылёў.

У Белавежскай пушчы энтамолагі налічылі аж 114 відаў матылёў (ва ўсёй Польшчы зарэгістравана 159 відаў). Фотавыстаўка адлюстроўвае толькі невялікую частку тутэйшай энтамафаўны.

**Пётр Байко**

# Бібліятэчны юбілей

У будучым годзе Гмінная публічная бібліятэка ў Дубінах (Гайнаўская гміна) будзе святкаваць 35-годдзе сваёй дзейнасці. Мае яна звыш 15-тысячны кнігазбор і 250 чытачоў, у тым ліку 130 дарослых. Вядзе яна два бібліятэчныя пункты: у Барысаўцы (тут кніжкі пазычае Аляксандр Іванюк) і ў Васількаве (Альжбета Каролька). У мінулым годзе бібліятэка купіла 140 новых кніжак.

Дарослыя чытачы ахвотна чытаюць сенсацыйна-ваенныя, гістарычныя, псіхалагічныя кніжкі, а таксама меладрамы. Гэтыя апошнія найбольш ахвотна пазычаюць перш-наперш жанчыны.

Моладзь любіць прыгодніцкія ды гістарычныя кніжкі, а таксама фантастыку. Яна найбольш карыстаецца слоўнікамі, энцыклапедыямі, лексіконамі. У чытальні можна таксама пачытаць перыядычныя выданні.

Бібліятэкарша Раіса Кот арганізоўвае чытальніцкія, дэкламатарскія і пластычныя конкурсы, а таксама літаратурныя віктарыны, вячоркі з крыжаванкай або вечарыны казак для дзяцей.

Моладзь з Клуба любіцеляў кнігі падрыхтавала насценгазету „Год Адама Міцкевіча“ ды конкурс на гэтую тэму.

З ліку дарослых найбольш чытаюць, між іншым, Рыгор Шарэйка, Галена Хадакоўская, Галена Сцепанюк і Міраслаў Калішук, а з дзяцей і моладзі: Моніка Плева, Анна Вярбіцкая, Эва Кот, Юстына Койла, Іаланта Вашчэнка і Тамаш Ярмоц. **(гай)**

# Не дачакаўся прызнання

**Пра Яна Тарасевіча расказвае Анатоль ЧАРАПІНСКІ з Любліна, лекар-псіхіятр і гісторык мастацтва, з якім гутарыць Ганна КАНДРАЦЮК.**

***— Маэстра прысвяціў Вам некалькі сваіх твораў. У Вашых руках пакінуў сваю спадчыну. І дзякуючы Вам Беларусь даведалася пра Яна Тарасевіча.***

**Анатоль Чарапінскі:** — Мне вельмі залежала, каб музыка Тарасевіча вярнулася да жыцця. У сваю чаргу я рады, што беларусы так энтузіястычна прынялі творчасць прафесара (Я. Тарасевіча — Г. К.).

***— Архіў захоўвалі Вы трыццаць гадоў, пакуль дачакаліся адраджэння Беларусі. Ці так было загадана ў запавеце кампазітара?***

— Не. Прафесар быў чалавекам надзвычай сціплым і амбітным. У запавеце не згадвае пра сваю творчасць. Мне самому хацелася перадаць архіў у добрыя рукі. А ведаў я, што большасць твораў напісаны на матывы беларускай песні. Сувязь з музычным асяроддзем Беларусі наладзіла мая дваюрадная сястра, мінчанка, Ларыса Пілянкевіч.

***— Як завязалася Ваша знаёмства з кампазітарам?***

— Было гэта пры нямецкай акупацыі. Я апынуўся ў Саколцы. Да вайны мая сям'я пражывала ў Беластоку. Бацька служыў у паліцыі. Як прыйшлі бальшавікі, бацьку вывезлі ў Асташкова, адкуль ужо не вярнуўся. У ссылку захапілі таксама маці. Я і сястра пасяліліся ў Саколцы, дзе жыла наша цётка Лідзія Цюрын. Гэта быў 1941 год.

Прафесар толькі што вярнуўся з Латвіі. Спачатку, пакуль не пабудаваў сабе домік у Шындзелі, жыў у Лявіцкага, на вуліцы Беластоцкай. Цётка добра ведала прафесара. І вось, калі тады сустрэліся, на вуліцы, цётка папытала пра ўрокі музыкі. Бо перад вайной бацькі вучылі мяне іграць на раялі. Памятаю, што паміж імі была такая размова:

*— То колькі Вам трэба плаціць?*

А прафесар на тое:

*— Проша пані, я бедны, ён бедны, то і нічога не трэба!*

Так пачалося наша знаёмства. Было мне тады адзінаццаць гадоў.

***— Пры жыцці Ян Тарасевіч не дачакаўся прызнання.***

— Прафесар не шукаў сабе славы, музыку ўспрымаў як жыццёвую асалоду і патрэбу душы. Да рэвалюцыі, у Пецярбургу, рыхтавалася яму фантастычная кар'ера. Ужо тады выдавецтва Юргенсона друкавала яго творы для фартэпіяна. Выкладаў ён у прыватнай школе Быстрова. Расказваў, што бачыў як бальшавікі здабылі Зімовы палац. Бо якраз і ён жыў у Зімовым палацы, дзе быў музыкантам Марыі Паўлаўны, сястры цара. Сябраваў з Глазуновым, Маякоўскім.

***— Давайце па чарзе раскажам пра жыццё і творчасць кампазітара. Пачнем ад загадкі звязанай з датай і месцам нараджэння. Віктар Скорабагатаў у нарысе „Вяртанне вундэркінда"* піша, што Ян Тарасевіч нарадзіўся 23 верасня 1886 года ў Саколцы. Гэтая дата не адпавядае інфармацыі на надмагільнай табліцы, паводле якой год нараджэння выпадае на 1892 год.***



*Марыя Кушаль — маці.*



*Аляксей Тарасевіч — бацька.*

— А ў сапраўднасці прафесар быў яшчэ маладзейшы. На нейкія 3-4 гады. Справа ў тым, што ён некалькі разоў мяняў пашпарт. Пасля апошняй вайны прыбавіў сабе тры-чатыры гады, каб не ісці на вайсковае абучэнне. Памятаю, запусціў нават бараду, каб выглядаць старэйшым. На магіле пазначаны год паводле пашпарта.

***— Якога месяца датычылі першыя ўспаміны?***

— Ломжы. Бацька быў царскім падпалкоўнікам. Разам з сям'ёй часта мяняў месца пражывання. Прафесар расказваў такі эпізод. Аднойчы, разам з сям'ёй адпачываў над Нарвай. Як кожнае дзіця, пачаў грабціся ў зямлі. І знайшоў у пяску людскую галаву. Запамятаў, што тады самлела маці, быў шум, паліцаі частавалі яго цукеркамі. Пасля высветлілася, што адрэзаная галава належала ахвяры вельмі вядомага забойства ў Ломжы.

***— Адкуль родам былі бацькі Тарасевіча?***

— Маці паходзіла са старога шляхецкага роду Кушаляў. З тых самых, пра якіх успамінае Сянкевіч у „Агнём і мячом". Бацька, Аляксей Тарасевіч, быў дваранінам Мінскай губерні. Удзельнічаў у руска-турэцкай вайне. Па веравызнанні быў праваслаўным, маці — каталічкай.

***— Дзяцей хрысцілі ў царкве. У Марыі і Аляксея Тарасевічаў было чацвёра дзяцей: Сцяпан, Канстанцін, Ганна, Іван.***

— Ян быў наймалодшы ў сям'і. А найстарэйшай — сястра Ганна. Паміж імі была розніца дзесяці гадоў. Расказваў, што сам навучыўся іграць на раялі. Проста да сястры нанялі гувернантку, якая вучыла таксама музыкі. І ён, падглядаючы ўрокі сястры, сам пачаў іграць. І кампанаваць. Яшчэ і нотаў не ведаў, а ўжо кампанаваў. Хадзіў за гувернанткай і прасіў, каб яна запісала яго творы.

***— У біяграфіі Ян Тарасевіч напісаў: „Калі мне мінула 7 лет, зачалі мяне вучыць пісьменніцтву, але помню, што тады ўжо я ўмеў іграць на раялі і нават ведаў ноты. Рок пазней дзеля мяне была запрошана вучыцельна музыкі". Поспехі ў ігры на фартэпіяна былі бліскучыя, бо ў 9-10 гадоў Ян Тарасевіч выступаў з канцэртамі і выконваў вальсы Шапена, Другую рапсодыю Ліста. Яму далі нават мянушку „вундэркінд".***

— Аднак трэба вярнуцца да сямейнай трагедыі, якая разыгралася ў 1900 годзе. Прафесар сказаў мне аднойчы, што магла яна вынікнуць па яго віне.

***— Маеце на думцы смерць бацькоў?***

*(працяг у наступным нумары)*

* Віктар Скорабагатаў, *Вяртанне вундэркінда*, „Культура" н-ры 44 і 45 ад 1997 г.

# Чаромхаўскі ГОК

Чаромхаўскі ГОК, як большасць яму падобных культурных цэнтраў, перажывае цяжкія дні. А ўсё па прычыне абмежавання фінансавых сродкаў на культуру.

Спыніліся пастаянныя кінасеансы. Не арганізуюцца па-ранейшаму святочныя вечарыны „з помпай". Не хапае грошай на папаўненне бібліятэк. Нават дах на клубе няма каму паправіць, бо інтэрвенцыйныя работнікі пераважна жанчыны, а такога ж спецыяліста ў спадніцы да такой працы не пашлеш. А дахаўшчыку трэба плаціць.

Наперакор усяму гэтаму, культурна-асветніцкія работнікі круцяцца як у кіпетні, каб справіцца са сваімі абавязкамі. А маючы талковага загадчыка пакрысе ім гэта ўдаецца.

Дырэктарам Чаромхаўскага ГОК з'яўляецца Тамара Кердалевіч. На гэтай пасадзе працуе яна з першых дзён узнікнення Чаромхаўскага асяродка культуры. Гэта чалавек адданы сваёй справе. Дагэтуль я бачу двое такіх у пасёлку: Мікалая Гарадкевіча, былога загадчыка Дома культуры „Калеяж" (зараз ён на заслужанай пенсіі і актыўна ўдзельнічае ў грамадскай дзейнасці) і паню Тамарку, як яе клічуць у Чаромсе. Спадарыня Т. Кердалевіч не толькі кваліфікаваны прафесіянал на сваёй рабоце, але і знаўца людскіх характараў. З кожным патрапіць знайсці „супольны язык" і рашыць праблему. Таму карыстаецца яна аўтарытэтам і ў асяроддзі маладых, і сярод старэйшага пакалення.

Яна дыскатэку для моладзі сарганізуе, цікавую кінакарціну прадэманструе (разумеецца, каб некалькі грошыкаў у касу капнула) або выстаўку наладзіць...

А вось пералік мерапрыемстваў, якія апошнім часам ладзіліся ў нашым ГОК.

24 мая г.г. была арганізавана сустрэча Саюза пенсіянераў і інвалідаў, якой старшынствуе Юзэф Дубковіч. У мастацкай частцы выступіў калектыў „Сакольскія верасы". Пасля канцэрта пенсіянеры гулялі на забаве пад гукі музычнага калектыва „Самі свої" з Беластока.

26 мая — з нагоды Дня маці малечы з дзіцячага садка арганізавалі мастацкую частку для сваіх мамак. Пасля абеду такі ж канцэрт далі школьнікі.

29 мая дэманстраваўся кінафільм „Titanic". Ён карыстаўся зацікаўленнем не толькі чарамшукоў але і аматараў фільма з Кляшчэляў.

30 мая ў Чаромхаўскай царкве Іконы Божае Маці „Достойно есть" або „Замілаваная" быў арганізаваны канцэрт у рамках фестывалю царкоўнай музыкі, на якім выступіў юнацка-мужчынскі хор з Брэста.

1 чэрвеня — з нагоды Міжнароднага Дня дзіцяці паказваўся спектакль „Пінокіо" ды адбылася дыскатэка. Дэманстраваліся казкі для дзяцей.

24 чэрвеня — з нагоды у пачатку канікул і адкрыцця летняга сезона працаўнікі ГОК арганізавалі дыскатэку для моладзі.

Гэта некаторыя мерапрыемствы арганізаваныя ў чаромхаўскім ГОК. Трэба прытым адзначыць, што тут праводзіць свае рэпетыцыі вакальна-інструментальная група „Чарамшына", а таксама дзіцячы калектыў пад кіраўніцтвам Барбары Кузуб. Пры ГОК знайшла прыстанішча група каратэкаў, якой кіруе інструктар з Сямятыч.

**Уладзімір Сідарук**

# Пецярбургская беларусістыка

У Савецкім Саюзе кафедры беларускай і ўкраінскай філалогіі знаходзіліся ў вышэйшых навучальных установах аднайменных рэспублік. Па гэтай прычыне беларуская мова і літаратура не вывучаліся ў акадэмічных цэнтрах Расіі. І хаця ад распаду СССР прайшло ўжо амаль сем гадоў, да гэтай пары няма яшчэ беларусазнаўчых факультэтаў ні ва універсітэтах Масквы, ні Санкт-Пецярбурга. Усё паказвае на тое, што сітуацыя неўзабаве зменіцца. У Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным універсітэце вядзецца ўжо падрыхтоўка да адкрыцця Кафедры беларускай і ўкраінскай філалогіі. Зараз распрацоўваюцца планы, падбіраюцца кадры. Вядома ўжо, што з кафедрай будуць супрацоўнічаць этнамузыколаг Ігар Мацыеўскі ды гісторыкі Вялянцін Грыцкевіч і Мікола Нікалаеў. Прыём студэнтаў пачнецца ў 1999 годзе. З 1 верасня гэтага ж года навуку пачне сем першакурснікаў.

**(вл)**

# Фальклор у Венгажэве

13 чэрвеня ў Венгажэве адбыўся трэці Міжнародны фестываль дзіцячых фальклорных ансамбляў нацыянальных меншасцей. У гэтым мерапрыемстве прынялі ўдзел выканаўцы з Польшчы, Балгарыі, Украіны, Летувы і Расеі. Беласточчыну прадстаўляў ансамбль з Ягуштова, што каля Бельска.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Мая радзіма там, дзе мае бацькі

**Уладзімір Тамашчук нарадзіўся ў 1923 годзе ў Войшках. У жыцці давялося яму сутыкнуцца з нядолямі, жахамі, крыўдамі.**

На прымусовыя работы ўзялі мяне, не зважаючы, што я быў адзін у бацькоў, у 1942 годзе. У Беластоку быў зборны пункт, адтуль нас пагрузілі ў цялячыя вагоны і забарыкадавалі. Вокны адкрылі толькі пасля перасячэння граніцы Усходняй Прусіі; па пейзажы было відаць, што мы ўжо на чужыне. У Тыльзіце быў перасыльны пункт, адкуль забраў мяне нямецкі гаспадар; працавалі ўжо ў яго чатыры палякі, я быў пяты; назвалі мяне Іванам. Багаты быў баўэр: шаснаццаць коней меў, больш за семдзесят дойных кароў, больш трыццаці штук ялаўніка, свіней вагою звыш цэнтнера больш сотні, а меншым свінням ён і сам ліку не ведаў. Быў у яго таксама самаход, з якога зняў колы — каб на фронт не мабілізавалі. Уставаў ён а палавіне чацвёртай, і мы таксама. Не шкадаваў ён ні нас, ні коней: калі коні змарыліся, загадваў мяняць іх і працаваць далей! Нас абавязвала картачная сістэма, але ён даваў больш; карміў нас дзеля таго, каб былі мы дужыя працаваць. Калі канчалася мяса, ён сам перабіваў вепруку нагу, бо толькі хворую жывёлу дазвалялася калоць. А малака давалі нам столькі, каб адно каву забяліць. Час ад часу нямецкія кухаркі нешта нам тайком падкідалі; былі гэта незамужнія дзяўчаты, якім не дазвалялася працаваць у сябе дома, толькі ў чужых.

Пра нашу вопратку гаспадар зусім не клапаціўся. Адзін паляк, Зыгмунт з Лодзі, ад саракавога года хадзіў у адной. Раз мы нешта ў стайні рабілі, гаспадар скінуў з сябе верхняе адзенне — *Mantel*, і той паляк надзеў яго на сябе і сказаў, што не аддасць; і так асталося. А мне крыху адзення прыслалі з дому.

Працаваў я ў баўэра два з паловаю гады. У 1944 годзе забралі мяне на тэрыторыю Літвы, у раён Шаўляй і Каўнаса, капаць супрацьтанкавыя акопы. Вялікія гэта былі акопы: пяць метраў глыбіні; дзверы ад клуняў клалі, каб з такое ямы зямлю выбраць. Людзей былі тысячы. Прывязуць кацёл з ежаю і ўсе кідаюцца да яго. Хто ўспеў нешта атрымаць, а хто і не ўспеў, бо часта здаралася і так, што натоўп галоднага народу перакульваў той кацёл і страва разлівалася. Мой баўэр таксама капаў там акопы, але не мог сцярпець такое сітуацыі і ўцёк. І я ўцёк — да свайго баўэра! Восенню прыйшоў загад немцам, каб уцякалі; хто не падпарадкаваўся, таму пагражаў расстрэл. Нямецкая прапаганда расклейвала афішы, што наступаючыя рускія вельмі здзекуюцца над насельніцтвам: жанчынам грудзі абрэзваюць, рукі выкручваюць, калечаць. І немцы сталі ўцякаць перад спадзяваным фронтам. Пакідалі ўсё сваё багацце; прапалі сотні быдла... А фронт стаяў пад Беластокам; аб гэтым я ведаў ад сваіх калегаў па нядолі, палякаў. Яны былі добра арганізаваныя, мелі наладжаную між сабою сувязь. Ведалі дзе забава, і ішлі туды па трыццаць нават кіламетраў!

Саветы з'явіліся ў нас пасля Новага года. Мы — прымусовыя рабочыя — адразу сталі падазронымі, асабліва татары і каўказцы. Усіх савецкіх грамадзян лічылі здраднікамі, бо не выстаялі насмерць, як загадаў Сталін; ён жа нават ад свайго палоненага сына адрокся, а што ўжо гаварыць пра другіх! Мяне пасля допытаў забралі ў армію. Абучэнне было кароткае: паказалі, як дзейнічае вінтоўка, крыху расказалі пра наступленне, прынялі прысягу. Помню, я прынёс прысягу на нейкім балконе: падсунулі мне картачку і я падпісаўся. 5 красавіка вызначылі наступленне; я апынуўся ў перадавой, бо для салдат, якіх мабілізавалі з палону, не прадбачвалася другога месца службы — быццам за кару, што ў няволю папалі. Прывезлі нам фуру трафейных вінтовак з поля бою, далі па чарцы гарэлкі. Есці не давалі, бо лічылі, што салдат сам сябе ежаю абяспечыць; гаварылі: „Есть не брать, только амуницию, бо есть найдёшь, а амуницию не найдёшь". Першы ўдар нанеслі „Кацюшы", пасля артылерыя, а затым мы падняліся на „ура!" Я ўспеў ускочыць у нямецкую траншэю, а ўжо навокал крык! Адзін крычыць „Дабей меня!", другі „Спасай меня!"; а хто там будзе *спасаць*... Неяк вытрымаў я тое першае наступленне, а колькі народу загінула!..

7 красавіка былі мы ўжо на подступах да Кёнігсберга. Вясна, балота, зелень на дрэвах... Быў загад атакаваць ноччу, але ноччу ніхто не пайшоў наперад — жыццё дарагое... А ўдзень Кёнігсберг было відаць, як на далоні. Пагналі нас у атаку. Немцы білі па сваіх, каб не адступалі, і саветы таксама; адзіным ратункам ад смерці было наступленне на ворага! Каля абеду мяне ранілі, у галаву і нагу. Цяжэй раненых саветы адпраўлялі ўглыб Савецкага Саюза, а лягчэй раненых пакідалі на месцы, каб пасля лячэння зноў кіраваць на фронт. Цэлыя гарады былі заняты раненымі. У Кёнігсбергу не ўцалеў ні адзін дом. Поўна пацукоў было, бо з насельніцтва мала хто астаўся. Тых, якія асталіся, саветы не выганялі, толькі яны самі прасіліся, каб дазволілі ім выехаць у Германію. Многа народу пабілі падчас вайны, бо як танк ехаў, то не глядзеў, ці людзі, ці што. Яшчэ ў сорак шостым я зайшоў пад мост боты пачысціць, гляджу — у вадзе нейкая пляма; быў гэта труп нямецкага салдата.

У 1947 годзе летам мяне дэмабілізавалі, і я адразу рашыў вярнуцца дадому. Можна было аставацца ў Прусіі, поўна гаспадарак там было пакінутых, займай, што хочаш! А граніца ў Польшчу была ўжо закрыта. Я тады давай ехаць у Маскву, у Галоўны штаб сухапутных войск. Меў я толькі даваенное польскае школьнае пасведчанне. Не хацелі мяне пусціць. Адзін капітан прапанаваў мне працу ў Маскве, абы я толькі адказаўся ад выезду, гаварыў: „Зачем тебе уезжать, там у тебя ведь только отец и мать". А я яму гавару: „Мы ваявалі за родзіну, а мая родзіна там, дзе мае бацькі!" У Маскве трэба мне было чакаць, пакуль мае дакументы аформяць. Далі мне *спраўку*: „Выдана демобилизованному солдату Томащук Владимиру Ивановичу в том, что он с 22 августа 1947 г. находится в Москве в ожидании оформляющихся в Советско-Польской смешанной комиссии документов на выезд его в Польшу". Далі і сухі паёк на пяць сутак, а жыць няма дзе. Нейкая жанчына ўбачыла мяне, распытала, і кажа: „Бяры прадукты і будзеш жыць у мяне".

Вярнуўшыся, працаваў я з бацькамі на гаспадарцы. Пры камуне налажылі на сялян невыносныя падаткі; гэта каб знеахвоціць да гаспадарання на сваім і ў калгас заперці. Мы пасадзілі два гектары лесу, і адразу тыя падаткі паменшалі, быццам рукою зняўшы. Усё ж такі, калі я заснаваў сям'ю, прысягаў: „Ці дачка будзе, ці сын — абы не на гаспадарцы!"

* * *

За ўдзел у вайне спадар Тамашчук узнагароджаны савецкімі медалямі „За взятие Кенигсберга" і „За победу над Германией в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг.", расейскімі „50 лет победы в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг." і „Медаль Жукова" ды польскімі „Medal Zwycięstwa i Wolności" і „Krzyż Kawalerski Orderu Odrodzenia Polski". За перажытыя пакуты атрымоўвае дадатак да пенсіі. А пабачанае і перажытае настолькі трагічнае, настолькі антыгуманнае, што не можа ён пра тое згадваць без хвалявання, без слёз: „Я на перадавой нікога не забіў, можа мая шалёная куля каго-небудзь зачапіла, не ведаю..."

І я не мог не хвалявацца слухаючы ягонае апавяданне пра жахі вайны. Аднак не менш ад тых жахаў усхвалявала мяне другое: знайшліся людзі, якія ягоныя пакуты падвялі словамі: „Ты ў Савецкай Арміі служыў: колькі афіцэраў забіў!?" І гэта не ад нейкіх „patriotów", а ад аднавяскоўцаў! Х••э як хто, але ж нашы, „тутэйшыя" патрыёты-самаеды, нават гледзячы па тэлебачанню розныя пампезныя цырымоніі, павінны ўсё ж хаця крыху і пра сваё ведаць — якая была доля нашага насельніцтва так пад нямецкаю, як і пад савецкаю акупацыяй. Ніхто тады нікога не пытаў пра нейкую волю, чалавека не лічылі чалавекам. Але ў наш час чалавекам можна быць; можна не мець адукацыі ці культуры, але крыху людскога сумлення мець усё ж такі можна.

**Аляксандр Вярбіцкі**

Апанас Цыхун

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

***(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)***

**Частка VI**

Вёска была амаль поўнасцю спалена. У ёй засталася адна хата і дзве адрыны. У хаце жыў адзін селянін з жонкай і дзецьмі Андрэй Краўцэвіч, Грамза, як яго называлі аднавяскоўцы павулічнаму, бо ў яго на правай руцэ не было трох пальцаў. Некалі абрэзаў іх у сячкарні, рэжучы сечку. Як пазней я даведаўся, гэтая самая хата, у якой некалі пабываў дзядзька заснавальніка беларускай філалогіі Яўхіма Карскага, Іван Ануфрыевіч Карскі, дзячок царкоўны, фалькларыст, этнограф, і апісаў, як яму давялося быць сведкай завяшчання перад смерцю селяніна Сцяпана Краўцэвіча. Вось гэты чалавек, нашчадак селяніна Сцяпана Краўцэвіча, Андрэй Краўцэвіч, Грамза, і ўзяў нас да сябе ў хату. На сялянскіх сядзібах расла вышэй росту чалавека крапіва. У садах красаваліся сонцам налітыя яблыкі, грушы, слівы, але ніхто іх не зрываў, бо не было людзей. Начамі ваколі хаты чутна было, як цяўкалі лісіцы. Страшна было выходзіць з хаты ўначы, бо падбіраліся ваўкі. Мае бацькі дзівіліся, як магла жыць у такой глушы сям'я Краўцэвічаў. І нам было страшна, але паступова, з цягам часу, Кунцаўшчына пачала ажываць, адраджацца. Пачалі да яе вяртацца з розных куткоў Расіі былыя жыхары. З кожным днём іх прыбывала. Жылі яны ў скляпах, якія захаваліся, у зямлянках, буданах. Паступова набывалі жывёлу, коней і кароў. Будавалі хаткі і адрыны. Пачалі апрацоўваць зарослыя лесам надзелы зямлі. Заспявалі ў вёсцы пеўнікі, закудахталі куры. Зазвінелі і дзіцячыя галасы. Паступова і мы сталі жыць самастойна. Купілі ў Індуры нейкую курную хату. Разабралі яе, перавезлі ў Кунцаўшчыну і паставілі на старым падмурку. Вядома, у ёй змайстравалі ў першую чаргу хлебную печ, на якой можна было пагрэць плечы. І пачалі жыць. Хата, хоць старая была, але моцная. Яе сцены, былой курнай хаты, прасякнутыя дымам, былі здаровымі, смольнымі. Пасля таго, як пабудавалі сабе новую хату, яе прадалі людзям у вёску Сухую Даліну, а тыя людзі потым прадалі яе ў вёску Агароднікі. І зносу ёй не было. Такой здаровай была тая курная хата! Не адну сям'ю яна абслужыла, не адно пакаленне людзей.

Пасля пабудавалі адрыну, хлявы. Дапамагаў у гаспадарцы мой дзядзька Максім Фёдаравіч Краўцэвіч, але нядоўга. У перыяд культу асобы Сталіна, у час страшнай яжоўшчыны па даносе „осведомителя"-стукача ён быў арыштаваны як вораг народа. Да гэтага прычыніўся і я, паслаўшы яму сваю фатаграфію (тады я ўжо быў паступіў вучыцца ў польскую настаўніцкую семінарыю). Фатаграфіі дзядзька не атрымаў, яна трапіла ў рукі энкавэдзістам. Перанёс Максім пыткі. Ад расстрэлу выратавала яго нязвыклая мужнасць і настойлівы характар. Аднак яго ўсё роўна судзілі як ворага народа. Прасядзеў ён у лагеры шэсць гадоў. Не на карысць дзядзьку Максіму склаліся і другія абставіны. Мой другі дзядзька па бацьку, Іван Гаўрылавіч Цыхун, будучы ў Амерыцы, звязаўся з палітыкай, актыўна ўдзельнічаў у розных забастоўках, мітынгах. Па гэтай прычыне яго ўлады пастанавілі высяліць. Неўзабаве яго арыштавалі, а таксама і яго блізкіх сяброў. Пасадзілі ў самалёт і высадзілі іх на тэрыторыю Савецкага Саюза недалёка Ленінграда. Іх падабралі органы міліцыі, як амерыканскіх шпіёнаў. Падчас допытаў дзядзька Іван назваў прозвішча Максіма Краўцэвіча. Гэта яшчэ больш навяло падазронасць на яго, што ён сапраўды з'яўляецца амерыканскім шпіёнам, ворагам народа. Толькі пасля таго, як Яжоў аказаўся сам ворагам народа, маіх дзядзькоў выпусцілі з турмаў, але яны доўга не пажылі. У хуткім часе памёр Іван Цыхун, а затым і Максім Краўцэвіч...

Неабходна сказаць, што і з нашай вёскі Кунцаўшчыны, у якой было 18 двароў, у перыяд сталіншчыны былі рэпрэсіраваны, як ворагі народа, а затым расстраляны дзесяць чалавек, якія не вярнуліся былі на радзіму, а засталіся ў СССР. З іх: Баламут Яўхім Міхайлавіч, Баламут Антон Міхайлавіч, Краўцэвіч Іван Ігнатавіч, Краўцэвіч Іосіф Сцяпанавіч, Салей Аляксей Антонавіч, Салей Максім Фаміч, Цыхун Антон Сямёнавіч, Цыхун Іван Трафімавіч (студэнты, настаўнікі, вайскоўцы, рабочыя).

***(праця́г будзе)***

# ВЕР — НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Я ўжо пажылая жанчына, ужо і ўнукі дарослыя. А мамы мае няма ў жывых даўно — больш за сорак гадоў, памерла маладая. Калісьці, як я выйшла замуж (ужо пасля смерці мамы), нарадзіліся дзве дзяўчынкі. Старэйшая была хваравітая, часта хварэла ангінай. І, ведаеце, у снах мама мяне папярэджвала аб яе хваробе. Дальбог, дзіця яшчэ і здаровае, бегае, бавіцца, а тут... мама сніцца — і праз пару дзён малая хварэе. Каб гэтак было раз, ці два, можна было б і не паверыць, але гэта паўтаралася многа разоў, пакуль яна не падрасла, і, як кажуць, не вырасла з гэтай хваробы. Даўно-даўно ўжо мне мама не снілася, і вось што я бачу цяпер у сне. Пахаванне мамы. Нейкае памяшканне, але не жылая кватэра. Многа людзей і з сям'і'я адна. Набліжаемся ў канец залы, бо там нябожчыца, але не ў труне, а ў чымсьці круглым устаўлена ў дзірку ў падлозе, а наверсе паложаны вянок, зроблены з белых, вялікіх кветак. І канец сну. Астроне, што можа абазначаць гэты сон? Ці хаця не што кепскае? Непакоюся вельмі і прашу, адкажы як мага хутчэй.

**Анна**

Анна! Калі сняцца бацькі — жывыя ці мёртвыя, — так і знай: вынікне непрыемная справа. У маладых гадах маці табе снілася на хваробу дзяцей, а цяпер вось прыснілася зноў, што ты была на пахаванні маці.

Калі б не было гэта пахаванне тваёй маці, ды каб усё адбывалася звычайна, як гэта здараецца ў жыцці, можна было б меркаваць, што чакае цябе нейкая вясёлая падзея.

Усё датычылася аднак тваёй маці, ды была яна не ў труне, а ў нечым круглым, а тое круглае было яшчэ ўстаўлена ў дзірку ў падлозе. Дальбог, нейкіх жыццёвых клопатаў табе не мінаваць.

Табе прыснілася, што на пахаванні ты з сям'і была адна, але навокал было шмат чужых людзей. І менавіта гэта гаворыць пра — у нейкай ступені — страту самастойнасці. Гэта значыць, што нейкія людзі накінуць табе сваю волю і ты будзеш вымушана выканаць іх жаданне. Адным словам, будзеш сама не свая.

Можа, той вянок з вялікіх белых кветак, паложаны на тую дзірку ў падлозе, крыху суцішыць твае праблемы, чаго табе і жадае

**Астрон**

# Конкурс „Нівы”

Рэдакцыя „Нівы” аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы” на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве” ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы”*.

**Талон № 6**

## Конкурс тыднёвіка Ніва

Цішка Гартны — гэта літаратурны псеўданім

- ☐ Зміцера Жылуновіча
- ☐ Максіма Багдановіча
- ☐ Якуба Коласа

# Абухом — сур'ёзна і крыху менш

Ну, хіба, пачалося. Узяўшы ў рукі нумар „Нівы” з дня чэрвеня сёмага — я яе ледзь пазнаў. Добра, што хаця пабеларуску ў ёй было, а і загаловак і фармат захаваліся, бо інакш... Так што ўзяў і чуць не лопнуў або, як сказалі б спадары Вандал і Адам, пусціў бонка. Значыць, думаю, ідзе, хіба, новае. А яно патрэбнае, амаль неабходнае — мяняецца ваколіца, вёска, горад, словам — усё, дык і нашай газеце няма чаго путацца ў старым адзенні. Ужо падключэнне тыднёвіка ў Інтэрнэт было вестуном нейкіх змен. І, несумненна, крокам патрэбным. Аднак, думаю, найбольшым штуршком (ці не рашаючым?) да вялікага зруху, была літаратурная старонка. Яе, у „Ніве” мела не быць, але рэдакцыя рашыла яе аднавіць — ужо па-свойму і без дапамогі „Белавежы”. І пайшло! І каб не заглыбляцца з чые віны і дзякуючы чаму, трэба сказаць, вельмі добра, што яна зноў з'явілася (а як будзе далей — пабачым). Абнадзейвае ў ёй і цікавы, як заўсёды, Міхась Андрасюк са сваім апавяданнем, і новыя, добрыя вершы. Турбуе толькі думка — ці на другі адрэзак прыгод Владка-інтэлігента давядзецца чакаць месяц, ці ўжо ў наступных нумарах можна будзе дачытаць? Я, асабіста, за першы варыянт, хаця і другі някепскі. Але, калі адбудзецца паводле другога, то частка чытачоў (тыя, якім прыгожае слова патрэбнае як, скажам, некаторым і шматлікім, навучанне роднай мовы ў школах) можа, ужо традыцыйна, знерваваццa. Але нічога, не пераживайце — ёсць добра. Бо, праўду кажучы, такія навуковыя разважанні, якія час ад часу і раней паяўляліся на літстаронцы, не надта пасавалі да характару штотыднёвіка (пра гэта не раз ужо гаварылася). Адносна змен у новым-няновым першым, але ўжо 2195 нумары „Нівы”, то вельмі цікава зробленая другая старонка з шэдэўрным „Мы прачыталі”. Вось. І далей — добра, што Вы вызвалілі з працы і тым самым зберäглі крыху грошай, Астрона. Бо, паверце, цяпер у снах разбіраецца амаль кожны (ёсць нават прафесійныя журналы на гэтую тэму) і рубрыка „Вер-не вер” была лішняя. Ды Сэрцайк крыху шкада (ад яго ж многія пачыналі чытанне), але, калі такі рух падтрымае Вас фінансава і пасадзейнічае чарговым пераменам на лепшае, дык адобрыць яго трэба. А яно (Сэрцайка) напэўна не прападзе, з такімі трапнымі парадамі і з такім вопытам знойдзе не абы-якую пасаду ў якімсьці каляровым выданні.

Ой, разгойсаўся я, бы той малады бычок на ніўскай шырокай прасторы, але, хіба, можна? І мо дыскусію нейкую выклічу, каб і чытач мог мець пэўны ўплыў на тое, што адбываецца. Дыскусія, ведаеце, вельмі патрэбная (і то на розныя тэмы), і няхай нават двух-трох у яе ўключыцца, а ўжо паўстане сякітакі вобраз патрабаванняў народа. І Вам тады, вядома, лягчэй круціць рулём. Крыху спрэчнай лічу ашчаднасць Вашу, якая праявілася ў знікненні лінеек адмяжоўваючых паасобныя артыкулы. Пэўным ёсць, што такім чынам Вы надалі графічнаму афармленню газеты важнасці, а нават узроўню, але ж людзі, асабліва старэйшыя, на вёсцы не прывыклыя да так рэзкіх змен, губляюцца крышку. Для прыкладу, жанчыны ў Ракавічах, у час калектыўнага чытання „Нівы” ў пятніцу, паблыталі цікавы допіс Міры Лукшы з такім жа — Андрэя Гаўрылюка. Проста яны чытаючы машынальна далучылі кусочак пра манастыр у Яблачыне да лёсу Марысі Пень. Склалася нават ніядрэнна, а ўважлівыя жанчыны прыкмецілі пэўную нелагічнасць даволі хутка. Але выправілі яе (вядома, супольна), толькі познім вечарам у суботу. Вось, столькі клопату і патрачанага ўсё-такі дарагога сялянскага часу, і ўсё з-за недахопу аднае тоненькай рысачкі! Добра, што хаця ў „Зорцы” яны (лінейкі) засталіся і нішто не ўвядзе ў зман нашых школьнікаў (і не толькі). Ну, але калі лініі (іх адсутнасць) могуць паспрыяць прафесійнаму і больш сучаснаму выгляду газеты, дык і з гэтым можна змірыцца. І, думаю, з часам, усе, нават жанчыны ў Чыжоўскай гміне, звыкнуцца з новым. Бо, што б не гаварыць, то такі вось новы вобраз старонак перасоўвае нашу „Ніву”, дагэтуль расцягнутую паміж старой бярозай ля канюшні, недзе ў Вэрстоку, а двухпавярховым і крыху навейшым, але шэрым блокам, скажам, у Дуброве-Беластоцкай, у бок засценкаўскіх ці нават васількоўскіх асабнякоў. Так што, бачыце, добра.

І калі я ўжо так мудрагельнічаю, аналізую і ўвогуле пішу, дык можа яшчэ некалькі сказаў пра сам змест і аўтараў. Мне заўсёды найцікавей чытаюцца тэксты Вандала Арлянскага і Адама Маньяка. І таму я б прапанаваў перасунуць іх на першую і другую старонкі. Яны пішуць сапраўды займальна і я не разумею, чаму займелі толькі канцавыя паласы ў тыднёвіку! Зразумейце, што людзі пакуль дойдуць да іх артыкулаў, а па дарозе начытаюцца пра кароў, масонаў, бабаў пастаўленых ракам, чыгунку і т.п., крыху (а нават больш чым крыху) стомяцца. І не заўсёды тады, і не кожны, схопа прапусціць праз свой розум (брава Вандал: гэта Вашы) такія вартасныя, часам смешныя, часам павучальныя, допісы і фельетоны. У прыватнасці я больш паважаю сп. Вандала (гэта, хіба, відаць), лічу яго амаль сваім аднадумцам і нават, у пэўны момант, іх імя „Фрашкі пра нашых” хацеў бачыць на літстаронцы. Але не — хай застаюцца там, дзе яны ёсць. Пэўна цікавіць Вас, чаму я пакінуў тую сваю мару? Вось нядаўна даведаўся я, як успрымаюць іх (фрашкі) жанчыны ў Меляшках. Яны пасля кожнай прачытанай так трасуць жыватамі, што ажно на нешматлікіх мужчын у вёсцы гэты смех перакідаецца. Рагочуць ды рагочуць і ўсе яны ведаюць (думаю, што не толькі там), пра каго пішацца ў фрашках-вандалках. А ўжо найбольш, з гэтых апошніх, спадабаліся ім тыя пра святога сабаку і пра бел-ука (брава Міхась!..) — чэлеса (члена). Ну, проста, класныя, гаварылі яны, ледзь прамаўляючы, з-за рогату, словы. Вось. А чарговага аўтара-псеўданімшчыка, Сціпана Абуха, можаце захаваць на апошняй балонцы. Піша ён смешна і пакольькі ад яго пісаніны цягне парафіяльным рэваншызмам і аднекуль знаёмай, бо суседскай мне гумарэскай, дык можна, а нават мусова, пакінуць яго ў спакоі і на даўцінным месцы. Пэўна думаеце цяпер, а дзе яно (места) для штатных журналістаў і карэспандэнтаў. Адказ просты — А. Маньяк і В. Арлянскі не пішуць так часта-густа, як хацеў бы, напрыклад, я — вось і хопіць месца (нат на першай старонцы) і на вартасныя і цікавыя (яны ёсць!) артыкулы, рэпартажы... прафесіяналаў. А такім, як я (нібыта — карэспандэнтам) і пастаянным даносчыкам, адвядзіце бачыну недзе ў канцы. І, каб ужо не зацягваць, скажу толькі: „Зоркі” не чапайце, а „запхай-дзірак” сцеражыцеся. І конкурсам у іх (чытачоў), конкурсам! І будзе добра.

**Яўген Бялькевіч**

PS. Прыдумалася мне яшчэ адна змена. Яна хіба неўспрымальная, бо даволі радыкальная, але, усё-такі, скажу. А мо так фармат газеты скласці напалавіну? Тады ўзнікне больш сучасная і больш аб'ёмістая (на вока) форма, а пры загалоўку можна будзе напісаць: „Аж 24 старонкі за адну залатоўку!” Падумайце толькі — 24 замест 12-ці. А ўзяць і забраць з тэтых 24-х дзве-чатыры, крыху, дзякуючы гэтаму (і не толькі) сэканоміць, і вокладку — бах! — у колер! Во, рэвалюцыя! Ад нечаканасці, перапуду і чаго толькі яшчэ, не адной кіяскёршы губа вывернецца, а ворагам мазгі папухнуць. А чытачу ў кішэні грош засвярбіць так, што ён і паўтары, а нават больш за такое не пашкадуе, а і яшчэ суседзям аб'явіць — чытайце, сякія-такія, родную і сучасную „Ніву”.

**Я. Б.**

***Ніва***, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com
INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).
Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Мае сардэчныя тайны

Я ў чорнай роспачы! Маё каханае Сэрцайка стала беспрацоўным на старонках „Нівы”. Добра, што па сардэчную параду магу заўсёды зайсці ў рэдакцыю, хоць большасць з Вас не падазрае мяне ў тым, што такія справы могуць у мяне яшчэ *шавяліцца*. Могуць гэта зрабіць і іншыя чытачы, хопіць раней пазваніць ды, калі няёмка, дамовіцца з Сэрцайкам у горадзе пры кілішачку ці кубачку кавы без цукру.

Ну, але Сэрцайка само ўзяло ды рассакрэцілася, маюць нагоду з ім сустрэцца калісьнія і даўгагадовыя Ягоныя ўздыхацелі. Ну, што ж, Ада прынцыпова не спалучае асабістых прыемнасцяў са службовымі раскошамі, але адмовіцца сустрэцца не павінна, ого, нават не мае на тое права! Беларускі народ надта ж „сэрцовы”, чуллівы, уражлівы, і адмовіць народу дапамогі можа толькі чалавек без сэрца! Я сам тут перад Вамі шчыра прызнаюся: не быў я абыякавым у адносінах да Сэрцайка, не пабаяўся Васіля (хоць яго баяцца маладыя і старыя), але, на жаль, зусім не быў я ў Адзіным тыпе. А што камплiментаў я жанчынам не шкадую... Хоць Міра, Геня, Галінка ці Гандзя мне таксама падабаюцца (ды я ім татам мог бы быць а каторай і дзедам), маюць у мяне такія ж шанцы, як і я ў іх, то нават і не прабую я да іх рабіць салодкіх вачэй, да таго ж змагаючыся з цукровай хваробай. Праўда, даюць мне яны добрыя парады адносна дзяўчат, асабліва Міра. Вось з Мірай часам сядзем і робім спіскі, чаго можна патрабаваць ад аб’екта закахання (я сам раней сваю сяброўку хацеў выдаць замуж, але, бачу, што надта ж пераборлівая яна зрабілася з гадамі). А вось такія рысы напрыклад выпісваем: выдатнага каханка і добрага мужа адразу, фантастычнага і практычнага адначасова, свядомага і інтэлігентнага беларуса, самога сціплага ды хваленага за габарыты... І пра дзяўчат таксама разважаем... Цяпер, калі Сэрцайка крыўдліва ўхмыляецца, калі пытаем у Яго парады, жыць нам проста адыходзіць ахвота. А што мае Яно цяпер рабіць? Столькі праблем чытачы „Нівы” маюць, лістоў панасылалі! Ну, скажыце, што мае Яно рабіць? Сэрца ж баліць, чытаючы тыя лісты! Кожнаму аддзельна ліст мае пісаць, адрасаваць, маркі наклейваць на канверт, вядома, за свае грошы, бо ў рэдакцыі паставілі на ашчаднасць?! Можа, мы з Мірай будзем Сэрцайку дапамагаць? Я бяруся лізаць маркі.

Што ж рабіць, як ратаваць нашу беларускую сардэчную справу?

**Вандал Арлянскі**

## Двухлітарная крыжаванка



**Гарызантальна:** 1. капкан, 3. расейскі абласны горад, 5. гульня, 7. тлушчавае адкладанне ў целе, 9. горад на захадзе Румыніі, 10. грыб сямейства сыраежкавых, 11. травяністая расліна сямейства рутавых, 12. устанаўленне наяўнасці, рэгістрацыя, 14. Эрнеста, аргенцінска-кубінскі рэвалюцыянер (1928—67), 16. згуба, знікненне, 17. опера Джузепе Вердзі.

**Вертыкальна:** 1. працяглы ўчастак, пояс, 2. дамашняя жывёла, 3. праваслаўны мітрапаліт усяе Польшчы, 4. нязгода, раздор, 6. неплацежаздольнасць у выніку разарэння даўжніка, 8. прылада для капання зямлі, 9. жрэцпрадказальнік волі бажаства ў старажытнасці, 11. спецыяліст па русістыцы, 13. гукі, якія ўтвараюцца пры іканні, 14. асобны квартал горада, выдзелены для пражывання дыскрымініраванага насельніцтва, 15. траўма. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 22 нумара**

**Гарызантальна:** Чагары, Цвікаў, гаплік, Наса, Арна, паўкажушак, гіра, улан, Такара, Равена, „Утопія”.

**Вертыкальна:** часіна, Рыга, цвік, аўчына, пладажэрка, Сапара, аракул, гітара, Англія, Тана, раут.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міколаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

__Фрашкі пра нашых__

## Авангард

Застылы ў позе магутнага ваяра,
Маладым паставай і тварам як зброяй,
Выпінае дыхі над народу хмарай,
Семнаццаць спартанцаў вядзе за спіною.

Праціўнікам страшна, вораг ніц упадзе,
Пакуль полк адборны з’явіцца у полі
Або, моцны духам, бліснe на парадзе
І пакажа людцам, як здабыці долю.

**Вандал Арлянскі**

## Долар Беларусі

Сямідзесяцішасцігадовая Ольга Ульянава запатрабавала ад кампартыі Расеі сто трынаццаць тысяч долараў. Ольга Ульянава гэта сёння самая блізкая сваячка Уладзіміра Ільіча Леніна. Уладзімір Ільіч Ленін быў некалі праваадыром расейскіх пралетарыяў. Пралетарыі гэта немаёмныя, якія, напр. у старажытным Рыме давалі грамадству толькі сваё патомства быццам сённяшнія немаёмныя румыны ў Беластоку, але ў сучасным грамадстве — паводле Ленінавага вучэння — яны складаюць самы перадавы клас, задачаю якога з’яўляецца пабудова справядлівага камуністычнага грамадства.

Долары Ользе Ульянавай патрэбны дзеля таго, каб выкупіцца ад высялення з кватэры, якім пагражае ёй яе ўласны зяць; нават у самай перадавой сям’і трапляюцца такія вось выradкі. А тое высяленне, згодна цяперашнім расейскім законам, адбылося б проста на перадавы цяпер капіталістычны маскоўскі брук, нягледзячы на перадавое пралетарскае сваяцтва таварышкі Ольгі. Вось такім чынам з перадавым маскоўскім класам змагаецца яго спрадвечны вораг — амерыканскі долар.

На якую кватэру трэба тых ста трынаццаці тысяч ненавісных кожнаму праведнаму пралетарыю долараў? Пералічваючы на польскія грошы, будзе гэтага каля пяцісот тысяч новых злотаў. За аднапакаёвую кватэру ў Беластоку трэба заплаціць амаль пяцьдзесят тысяч, а за кожны чарговы пакой чарговыя дваццаць тысяч. За грошы, якіх патрабуе ад сваіх пралетарыяў *бабушка* Ольга, можна ў Беластоку купіць дваццацічатырохпакаёвую кватэру. Калі нават улічыць, што ў Маскве кватэры ўтрая даражэйшыя ад беластоцкіх, і так атрымоўваецца, што перадавой пралетарцы патрэбны васьміпакаёвы палац. Астаецца толькі тайнаю, якую кватэру займае дагэтуль пляменніца вялікага пралетарскага праваадыра *в процветающей Стране Советов*...

У Маскве, вось, усемагутны амерыканскі долар, як жа ж не так даўно ўсемагутны і абагаўляемы ў нас, высяляе з кватэры яе перадавую жыхарку, таксама — як відаць па яе *потребностям* — абагаўляючую яго. Доларам, аднак, трэба тут лічыць закон „Хто працуе, той і мае”. А пляменніца Леніна мае, відаць, *по потребностям* — як летуцеў яе дзядзька. Бо ж калі б мела яна *по труду*, не меў бы права зяць яе выганяць ды і ў Польшчы не падсмейваліся б з расейскага дабрабыту.

У Менску і яго наваколлі таксама здараюцца высяленні, але не перадавых сваякоў знатнасцей, толькі ненавісных ім імперыялістаў — замежных дыпламатаў. Бо ў Менску, не так як у Маскве, долары — тыя заакіянскія дзевяцігаловыя змеі — не з’яўляюцца мераю не толькі **потребностей**, але пэўна і *труда* і не маюць вялікай сілы, хаця іх — згодна малюнкам створанай Леніным прапаганды — мяшкі ў руках і на плячах паласатанагавіцых імперыялістаў. І таму ў Менску знайшоўся волат-выкідайла, які не патураўся „прынцыпамі” і вытурыў тых імперыялістаў разам з іхнымі доларамі; як долар *бабушку* ў Маскве. Герой наш не абы-які ашчадны: салам боты вымазаў і шкурку з’еў.

**Адам Маньяк**

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Калі я нарадзіўся, — тлумачыць кавалер прывабнай дзяўчыне, — я быў прыгожым хлапчанём...

— Напэўна?

— Так; ды ў радзільным доме памянялі мяне на агіднае немаўля.

* * *

Прастуджанай дамульцы лекар загадаў прымаць вітаміны і цёпла апранацца.

— І што запісаў табе ўрач? — пытае дома муж.

— Вітаміны і норкавае футра.

* * *

Урачу пазніўся гадзіннік і ён пайшоў да майстра. Той паглядзеў механізм ды кажа:

— Спружына ўжо слабая; вам трэба накручваць гадзіннік два разы ў суткі.

— Перад ядою ці пасля?

* * *

— У мінулым месяцы так мне дакучаў раматус, — кажа пенсіянер пенсіянеру, — што не мог памыцца; мусіў пайсці ў бальніцу.

— І што?

— Там памыўся.

* * *

Псіхіятр прымае хворага, які скардзіцца на дэпрэсію:

— Адзінае, што магу вам дарадзіць, гэта праца — каб адарвацца ад дурных думак...

— Ой, толькі не праца! — заенчыў хворы.

— А хто вы па прафесіі?

— Мяшальнік бетону.

* * *

Жонка сведчыць на працэсе мужа абвінавачанага ва ўчыненні аўтамабільнай катастрофы.

— Хай нам сведка раскажа, — загадвае суддзя, — як дайшло да выпадку.

— Было так, — пачынае жанчына, — я вяла самаход, а муж сядзеў за рулём...

* * *

Жонка адводзіць мужа ад самагубнай задумы:

— Раздумайся, найдаражэйшы, маеш яшчэ столькі аргументаў у карысць жыцця: самаход не аплачаны, тэлевізар не аплачаны, а крэдыт на дом аплачаны толькі ў палове...